# Ніва

PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 3667714

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 38 (1845) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 22 ВЕРАСНЯ 1991 Г. ЦАНА 1000 ЗЛ.




**Зянон Пазняк прамаўляе перад апячатаным будынкам ЦК КПБ.**

# ПЕРШЫ ТЫДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

У нядзелю 25 жніўня польскае тэлебачанне паказала Плошчу Леніна ў Мінску, сабраны там народ, бел-чырвона-белыя сцягі. Дыктар прачытаў: **Беларусь абвясціла незалежнасць.**

26 жніўня на вуліцах Гродна не відаць ніякага закалоту. У абласным выканаўчым камітэце (як польская ваяводская ўправа) таксама спакойна. Сакратаркі наводзяць сябе годна, стрымана, не мітусяцца ў калідорах перапалоханыя камуністы. У абласны камітэт партыі я не заходзіў, падаўся ў цэнтр падзеяў — у Мінск. Вечарам горад выглядаў звычайна. На цэнтральнай плошчы ад натоўпу з папярэдняга дня застаўся толькі вялікі лозунг: „За нашу вольную Беларусь". З тэлебачання, прэсы, размоваў з людзьмі складаю вобраз падзеяў апошніх дзён.

Калі ў Маскве вырашаўся лёс дзяржаўнага перавароту, аб сваёй волі на самастойнасць яшчэ раз заявілі прыбалты. Да незалежнасці таксама імкнуцца каўказскія рэспублікі і Малдова. Відаць, што канчаецца час цэнтра, настае час рэспублік. Незалежнасць аб'яўляюць Украіна і Беларусь. Патэнцыял першай і яе месца ў Савецкім Саюзе вядомыя, таму можна было чакаць такога кроку. Беларусь заўсёды заставалася неяк збоку. Яе заява аб незалежнасці была абсалютнай нечаканасцю.

Пятая сесія Вярхоўнага Савета БСР дванаццатага склікання праходзіла ў суправаджэнні некалькітысячнага натоўпу перад Домам урада. Першы дзень — субота 24 жніўня — не прынёс ніякіх вырашэнняў. Парламенцкія фракцыі цвёрда стаялі на сваіх пазіцыях. Вялася вострая, але непрадуктыўная дыскусія.

Ноч з суботы на нядзелю людзі на Плошчы Леніна правялі ў няўпэўненасці.

Але ў нядзелю — Вярхоўны Савет як не той самы. У адстаўку падаецца ягоны старшыня Мікалай Дземянцей. Прымаюцца пастановы: аб часовым прыпыненні дзейнасці КПБ-КПСС на тэрыторыі рэспублікі, аб дэпартызацыі органаў дзяржаўнай улады і кіравання Беларускай ССР, дзяржаўных прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый. Аднагалосна прымаецца пастанова аб дзяржаўнай незалежнасці Беларусі. Справа саюзнага дагавору знікае з парадку дэбатаў. Апазіцыя перажывае трыумф. Плошча ў эўфарыі.

Так было ў нядзелю вечарам. А ў панядзелак ужо ціха. Людзі, як штодзень, пайшлі на працу, ніякага свята, ніякай незвычайнасці.

Тым часам пастанова аб спыненні дзейнасці кампартыі ўваходзіць у жыццё. Зачыняюцца і апячатваюцца ейныя памяшканні. Папулярнасць у народзе набывае намеснік старшыні Мінскага гарадскога савета Анатоль Гурыновіч, які, не чакаючы рашэння рэспубліканскіх уладаў, дае загад забяспечыць будынак ЦК КПБ і сам кіруе гэтай акцыяй.

Аднак выканаўчыя органы ўлады не мяняюцца. Усе міністры застаюцца на сваіх пасадах, а прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч пасля свайго рашучага выступлення ў падтрымку незалежнасці, здаецца, расце нават у сілу. З'яўляюцца галасы, што апазіцыя прадала народ і пайшла на пагадненне з камуністамі, якім „незалежнасць" патрэбная толькі на тое, каб уцалець пасля дэкрэтаў Ельцына. Я стаўлю сабе пытанне: што робіць сфармаваны апазіцыяй ценявы кабінет? Чаму не момант патрабаваць змены ўрада? Апазіцыя ж упершыню можа стаць палітычным суб'ектам у БССР.

29 чэрвеня Мінскі страйкавы камітэт і Мінская гарадская рада Беларускага народнага фронту „Адраджэнне" праводзілі мітынг-рэквіем па загінуўшых у абароне „Белага дома" масквічах. Быў якраз дзесяты дзень ад іхняй смерці. На бел-чырвона-белых сцягах чорныя жалобныя стужкі. За загінуўшых памаліліся: прадстаўнік пратэстанцкай супольнасці, пра-васлаўны і каталіцкі святары. Слова бяруць дэпутаты ад апазіцыі, а пасля фармуецца шэсце па Ленінскім праспекце пад будынак Цэнтральнага камітэта кампартыі Беларусі (былой). Вядучы мітынг старшыня страйкама Сяргей Антончык просіць захаваць спакой і парадак. Я дзіваваўся дысцыплінаванасці народу. Людзі ішлі неяк паспешліва, трымаліся толькі вызначаных палосак вуліцы, не раскідвалі лістовак, не заклікалі прылучыцца людзей з тратуараў, урэшце, не тапталі травы ля будынку ЦК. Гэтае шэсце не было падобнае на вядомыя мне польскія мітынгі васьмідзесятых гадоў.

( **Працяг на стар. 7**)




— 55 —

## АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

Другой, апрача эмігранцкай, крыніцай дапамогі для Беларускага музея з'яўляецца крыніца, якая пацякла ў Гайнаўку з Беларусі. На працягу некалькіх гадоў адзінай беларускай арганізацыяй, якая дапамагала будаваць музей, было таварыства „Радзіма". Ведаю, што маё сцвярджэнне выкліча здзіўленне, а можа і абурэнне з боку тых людзей, якія не любяць „Радзімы", залічваючы яе да арганізацый пракамуністычных. Праблема ідэалогіі тых, хто нам дапамагае, ніколі нас не цікавіла. Мы ўвогуле не маем у запасе ярлыкоў, пры дапамозе якіх знакавалі б або кляймілі людзей паводле іх палітычных поглядаў. Па-першае, лічым, што кожны чалавек мае права да сваіх поглядаў і што ніхто не мае права ўмешвацца ў гэту святую сферу асабістага жыцця чалавека. Па-другое, дружалюбна трактуем кожнага чалавека, які дапамагае ў пабудове музея. „Радзіма" нам у гэтай справе дапамагала і дапамагае і таму гаворым ёй шчырае дзякуй.

Гэта шэф „Радзімы" Мікалай Васілёнак прыклаў нямала сіл, энергіі і добрай волі да таго, каб у канцы канцоў адкрыць у беларускім банку рахунак дапамогі для Беларускага музея, на якім у хуткім часе сабралася 70000 рублёў. Можа хтосьці сказаць, што нямнога. І калі так скажа — памыліцца. Справа ў тым, што калі б мы гэтыя грошы атрымалі ў Польшчы пасля абмену іх на злотыя, дык сапраўды атрымалі б мізэрныя сумы. Аднак, мы іх атрымалі ў форме будаўнічых матэрыялаў і ў гэтым праявіўся вялікі выйгрыш. Падам толькі прыклад. Калі б мы адну тысячу рублёў памянялі на злотыя і, атрымаўшы за іх 400000 злотых, купілі паркет, дык хапіла б усяго на пяць квадратных метраў паркету. Калі мы за тысячу рублёў купілі ў Беларусі паркет, дык гэтай сумы хапіла на пяцьсот метраў паркету. Дзякуючы такой аперацыі, рубель станавіўся намнога даражэйшы, чым долар. Для прыкладу, Кастусь Майсеня за шэсць тысяч рублёў, сабраных „Радзімай", купіў дасканалы мікробус —„рафік", які ў Польшчы каштуе каля ста мільёнаў злотых. Калі б гэтыя 6000 рублёў былі абменены на польскія злотыя, мы б атрымалі ўсяго 2400000 злотых. Карысць відавочная кожнаму! Апрача гэтага „Радзіма" дапамагла нам увайсці ў кантакт з многімі добрымі калгасамі. Калгасы перадалі нам бясплатна многа, многа тон рознага тыпу матэрыялаў і тавараў. Пры гэтай нагодзе зноў вырастае гераічная постаць Кастуся Майсені. Гэты ўжо немалады чалавек едзе ў калгас. Загружае велізарны „камаз" матэрыяламі і таварамі. Сядае ў кузаў у спецыяльна падрыхтаваную нішу. Робіць гэта таму, што міліцыя не дазваляе ехаць у кузаве разам з таварамі і матэрыяламі і зімой едзе 200, 300 або і 500 кіламетраў, каб урэшце прыехаць у Гайнаўку і заявіць: прывёз. Здарылася яму мінулай зімой паехаць у такім грузавіку на гранічны пераход у Літве, дзе яго не прапусцілі, паехаць у Гародню, дзе яго таксама не прапусцілі, з Гародні паехаць у Брэст, дзе ў канцы Майсеню і яго набытак прапусцілі.

Аб няўступлівасці Майсені ў справах Беларускага музея шэф „Радзімы" Васілёнак расказаў мне калісьці такую гісторыю. „Вельмі часта Майсеня, — гаварыў ён, — прыехаўшы да нас, чытае нам такую доўгую літань патрабаванняў, што мы хапаемся за галаву і гаворым яму, што ўсе яго патрабаванні нерэальныя. І што вы думаеце?! Майсеня, пасядзеўшы мінуту-другую, ізноў чытае нам сваю літань. Другі адмоўны наш адказ не збівае яго з панталыку і ён трэці раз паўтарае нам ужо ўсё сказанае. Ну, і што ж рабіць? Вядома, што просіць ён не для сябе, а для дабра супольнай справы. І таму мы проста лезем са скуры, каб хаця часткова Майсеневу літань задаволіць."

„Радзіма" дапамагла нам многа і мы былі б безразумнымі людзьмі, калі б з такіх ці іншых прычын замоўчвалі гэты факт або яму запярэчвалі.

І яшчэ адно. Дапамагаючы музею, ніхто ніколі з „Радзімы" не ставіў нам ніякіх варункаў, не патрабаваў ад нас ніякіх дэкларацый і не стараўся накіраваць нас супроць якіх-колечы людзей або ідэалогіі на свеце.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

*********************************************************************************

## З мінулага тыдня

**Прэм'ер-міністр Ян Кшыштоф Бялецкі нанёс рабочы візіт у Злучаныя Штаты Амерыкі.** У час сустрэчы з прадстаўнікамі палітычнага і навуковага свету на форуме Атлантычнай рады прэм'ер-міністр Бялецкі пытанні эканамічнай і палітычнай бяспечнасці звёў да пяці галоўных пунктаў. На думку польскага прэм'ер-міністра, асноўнымі фактарамі з'яўляюцца: утрыманне дэмакратычнай традыцыі рэгіёна, падтрымка Злучаных Штатаў, хуткае ўключэнне краін Усходняй і Цэнтральнай Еўропы ў Заходнееўрапейскі саюз, апека над імі з боку НАТО і рэгіянальнае супрацоўніцтва паміж гэтымі краінамі.

**„Рукі прэч ад самаўрадаў", „Хочам роўных правоў з літоўцамі", „Віленшчына патрабуе справядлівасці"** — такія лозунгі віднеліся на транспарантах на Плошчы Незалежнасці ў Вільні. Некалькі соцень палякаў наладзіла дэманстрацыю перад літоўскім парламентам. Пратэставалі яны супраць прынятага парламентам рашэння аб роспуску раённых саветаў у Салечніках і на Віленшчыне, дзе пражывае польская нацыянальная меншасць. З абурэннем мясцовых палякаў сустрэлася таксама пастанова літоўскага ўрада аб звальненні з работы старшынь раёнаў і іх намеснікаў.

**Літва, Латвія і Эстонія** прыняты ў лік дзяржаў-удзельніц Канферэнцыі бяспекі і супрацоўніцтва ў Еўропе.

9 верасня паміж **Польшчай і Эстоніяй** былі адноўлены дыпламатычныя адносіны.

**Польшча, Чэхаславакія і Венгрыя** звярнуліся да Заходнееўрапейскага саюза з прапановай даць крэдыт Савецкаму Саюзу на пакупку харчовых прадуктаў у гэтых краінах.

Паводле ўступных дадзеных, у парламенцкіх выбарах у **Сейм** балаціравацца будзе **7328 чалавек** (16 кандыдатаў на адзін мандат), а ў **Сенат — 607** (6 кандыдатаў на адзін мандат).

**12 верасня ў Ваяводскім судзе ў Беластоку пачаўся працэс Яна С.**, які абвінавачваецца ў тым, што 12 ліпеня 1990 г. падпаліў царкву Праабражэння Гасподняга на Святой Гары Грабарцы.

**У Белавежы** выйшаў першы нумар квартальніка „Parki narodowe", прысвечанага пытанням нацыянальных запаведнікаў.

## ЗАЯВА

### У СПРАВЕ ПАДТРЫМКІ ДЭКЛАРАЦЫІ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ ЭСТОНІІ, ЛАТВІІ, БЕЛАРУСІ І УКРАІНЫ.

Поўнасцю падтрымоўваем імкненні да незалежнасці і свабоды ўсіх народаў на тэрыторыі Савецкага Саюза. З асаблівай увагай глядзім на адраджэнне нацыянальнай тоеснасці і дзяржаўнай незалежнасці народаў, пражываючых між Польшчай і Расіяй.

З вялікай радасцю і рашучай падтрымкай прымаем дэкларацыі незалежнасці краін Прыбалтыкі, Беларусі і Украіны.

Надышоў гістарычны момант, калі ўслед за прызнаннем урадаў Літвы, Латвіі і Эстоніі, III Рэчыпаспалітая Польская павінна як найхутчэй прызнаць дэ-юрэ ўрады Беларусі і Украіны, наладзіць нармальныя дыпламатычныя зносіны і прыйсці з усялякай дапамогай у замацоўванні новага дзяржаўнага статуту нашых усходніх суседзяў. Зараз мяркуем, што наступіць больш цеснае палітычнае, гаспадарчае, навукова-асветнае і турыстычнае супрацоўніцтва паміж Польшчай і дзяржавамі Усходняй Еўропы, якія адыходзяць ад камуністычнай таталітарнай сістэмы. Спадзяёмся, што шэсць дзяржаваў Усходняй Еўропы здолеюць стварыць самастойную Супольнасць, якая ўвойдзе ў розныя формы супрацоўніцтва са сваімі суседзямі. Мы перакананы, што дэмакратызуючаяся Расія прызнае тэрытарыяльную недатыкальнасць гэтых дзяржаў і іх волю самастойнага развіцця.

Мы вітаем народы, якія ўваходзяць на дарогу незалежнасці, і накіроўваем таксама словы дружбы да ўсходнееўрапейскіх этнічных меншасцяў у Польшчы, якім належацца поўныя правы на захаванне сваёй уласнай культуры і на ўдзел у грамадска-палітычным жыцці польскай дзяржавы. Вітаем палякаў, пражываючых на Усходняй Еўропе, ад якіх чакаем падтрымкі незалежніцкім імкненням эстонцаў, латышоў, літоўцаў, беларусаў і украінцаў. Верым у тое, што палякі будуць там паўнапраўнымі грамадзянамі, для якіх Польшча — гэта Айчына-маці, а краіна пражывання — Бацькаўшчына.

Таварыства супрацоўніцтва народаў Усходняй Еўропы „Прыбліжэнне" і нашыя сімпатыкі заклікаюць польскую грамадскую думку выказаць неадкладную і салідарную падтрымку для народаў Эстоніі, Латвіі, Літвы, Беларусі і Украіны.

Скарыстайма гістарычны шанц для супольнага дабра. Больш нас спалучае, чым раз'ядноўвае.

Варшава, 30 жніўня 1991 г.

**Ад імя Таварыства народаў Усходняй Еўропы „Прыбліжэнне": Ежы Дамрош** (дацэнт, этнасацыёлаг, Інстытут культуры), **Анджэй Каўчак** (прафесар, філосаф, намеснік старшыні Канадскай палоніі), **Галена Казіцкая** (журналістка), **Анастасія Краўчук** (журналістка „Нашага слова"), **Бажэна Лоек** (доктар, харэолаг, старшыня „Сям'і катынскай"), **Анджэй Ставаж** (доктар, этнограф і гісторык, дырэктар Музея незалежнасці), **Міраслаў Вэрбовы** (галоўны рэдактар „Нашага слова"), **Крыстына Водзова** (этнограф, Фундацыя „Цэпэлія").

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

* Студэнты з Беласточчыны едуць вучыцца ў Беларусь.
* Нашы кандыдвты ў Сейм.
* Беларусіяна на карце Беластока.
* Працяг нарысу пра Максіма Багдановіча.
* З працэсу Яна С., падпальшчыка царквы на Грабарцы.
* Перыпетыі вуліцы Ф. Скарыны ў Бельску.



Выказваю глыбокую падзяку ўсім жыхарам Беластоцкага ваяводства, хто з добрай волі і з верай у нашу супольную будучыню падтрымаў сваім подпісам маю кандыдатуру ў сёлетніх выбарах у Сенат Рэчыпаспалітай.

Заахвочваю ўсіх беларусаў найсці 27 кастрычніка галасаваць. Беларусы павінны мець у Сейме і Сенаце выключна сваіх прадстаўнікоў. Чужыя адвакаты грэюць найчасцей рукі на нашай бядзе.

**ЯН ЧЫКВІН,**
**кандыдат Беларускага выбарчага камітэта ў Сенат**

# НАШЫ КАНДЫДАТЫ



**ВІКТАР ШВЕД — нарадзіўся 23 сакавіка 1925 года ў вёсцы Мора на Беласточчыне. Вучыўся ў беларускай сярэдняй школе ў Бельску-Падляшскім, закончыў Акадэмію палітычных навук у Варшаве, факультэт журналістыкі і Кафедру беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Працаваў у выдавецтве „Ксёнжка і ведза" ў Варшаве. Быў журналістам „Нівы", шмат гадоў кіраваў Варшаўскім аддзелам БГКТ. Член Саюза польскіх пісьменнікаў, намеснік старшыні Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа", намеснік старшыні Рады беларускіх арганізацыяў, член Рады нацыянальных меншасцяў у Польшчы. Аўтар шэрагу паэтычных зборнікаў для дарослых і для дзяцей.**



## ПЕРАД НАМІ ШМАТ ПРАЦЫ

**„Ніва":** — *Якія, па-Вашаму, задачы перад прадстаўнікамі беларусаў у парламенце Польшчы?*

**Віктар Швед:** — Я вырашыў кандыдаваць толькі таму, што жадаю зрабіць як мага найбольш для асяроддзя, з якога я выйшаў. Наша беларускае асяроддзе надзвычай занядбанае — асабліва гэта адносіцца да сельскай гаспадаркі. Моладзь уцякае ў гарады, на вёсцы застаюцца альбо адны пенсіянеры, якія дажываюць свой век, альбо гаспадары, гаспадаркі якіх слабеюць, бо няма збыту на іхнюю прадукцыю, у выніку чаго няма ў іх і грошай на штучныя ўгнаенні, сельскагаспадарчыя машыны ды на ўсё іншае, што неабходнае ў гаспадарцы. Нашы паслы павінны ў першую чаргу дамагацца, каб польскі Сейм звярнуў большую ўвагу на гэтак званую Усходнюю Сцяну. Ёй неабходная дапамога дзяржавы. Нашы паслы павінны дамагацца таксама прызнання нацыянальнай меншасці, зраўнання яе ў правах з польскім народам, ды дамагацца канстытуцыйнага запісу, у якім гаварылася б, што нацыянальная меншасць знаходзіцца на аднолькавым статусе з польскім народам і мае права на поўнае развіццё сваёй гаспадаркі, культуры і асветы.

— *Вы сказалі, што моладзь уцякае ў гарады. Што, па-Вашаму, з'яўляецца ў гэты момант важнейшым: ці намаганні, каб затрымаць тую ж моладзь на вёсцы, ці, можа, большую ўвагу трэба было б адвесці абароне культурнай і нацыянальнай тоеснасці беларуса, які апынуўся ўжо ў горадзе?*

— Я бачу гэта так: працу трэба весці ў абодвух напрамках. Што адносіцца да беларусаў, якія жывуць у горадзе, дык трэба зрабіць усё, каб вярнуць іх да беларускасці. Гэта магчымае, калі мы ўзмоцнім нашу культурна-асветніцкую працу. Вялікая тут роля такіх культурных мерапрыемстваў, як Свята беларускай песні. Людзей трэба ўсведамляць, хто яны такія і якая іхняя гісторыя, бо ў большасці выпадкаў людзі ж гэтай гісторыі не ведаюць. Нашых людзей трэба асмельваць, каб гаварылі па-беларуску — беларуская мова павінна быць чымсьці звычайным на гарадской вуліцы. Што датычыць вёскі, дык гаварыў я са шматлікімі гараджанамі наконт іхняга вяртання на вёску — у большасці выпадкаў яны адказвалі, што ніколі туды не вернуцца, лепей ужо падмятаць гарадскую вуліцу. Я, аднак, думаю, што цяпер якраз могуць паявіцца спрыяльныя ўмовы для вяртання на вёску. Беспрацоўе ў гарадах страшэннае — працы не хапае не толькі людзям з вышэйшай адукацыяй, але з сярэдняй і простым рабочым. Калі будуць створаны адпаведныя ўмовы працы на вёсцы, дык напэўна многія туды вернуцца — займуцца гаспадаркамі і паслугамі, якіх увогуле няма. Гэтак будзе, але дзеля гэтага неабходна, каб вёска мела нейкую перспектыву, будучыню. Думаю таксама, што з часам моладзь, якая яшчэ на вёсцы, перастане ўцякаць у гарады. Праўдападобна, дойдзе да таго, што сярэдняя і вышэйшая школы будуць платныя — як у капіталізме, дык многіх гэта пазбавіць магчымасці вучыцца, а калі ўзяць пад увагу беспрацоўе ў гарадах, то моладзь пачне шукаць свайго шанцу на вёсцы. Уся справа толькі ў тым, каб на вёсцы лепш жылося, але гэта ўжо задача для

( Працяг на стар.5)

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК — нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Ляхі (Нараўская гміна). Закончыў ліцэй у Гайнаўцы, вывучаў інфарматыку ў Варшаўскім універсітэце. Дзесяч Беларускага аб'яднання студэнтаў (у свой час рэдактар студэнцкага часопіса „Сустрэчы"), зараз актыўны ўдзельнік Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. Працуе журналістам у „Ніве". Адначасова з'яўляецца студэнтам факультэта палітычных навук Гданьскага універсітэта.**



## ДАПАМОЖАМ САБЕ САМІ!

**„Ніва":** — *Чаму Вы лічыце, што беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы патрэбны свой прадстаўнік у парламенце?*

**Аляксандр Максімюк:** — Беларускі прадстаўнік, ці прадстаўнікі, у польскім парламенце патрэбны таму, што мы, беларуская меншасць, такі самы народ, як і польская большасць. Мы не бежанцы і не перасяленцы, а паўнапраўныя грамадзяне гэтай краіны ды гаспадары таго кавалка зямлі, на якім нарадзіліся і жывем. Калі глядзець у маштабе цэлай краіны, дык беларусаў усяго жменька, але і гэтага дастаткова, каб змагацца за свой палітычны інтарэс і сваё прадстаўніцтва ў парламенце. Калі я збіраў подпісы ў падтрымку Беларускага выбарчага камітэта, са спіска якога кандыдую, найчасцей чуў такое пытанне: „А ці гэта нешта зменіць?" Хочацца тут адказаць — беларускі прадстаўнік у парламенце Польшчы, ці будзе іх некалькі, ці толькі адзін, няшмат зменіць. Для прыкладу, гаспадар на Беласточчыне не адчуе паляпшэння сваёй сітуацыі ад факту прысутнасці ў Сейме беларускіх паслоў, бо дзеля гэтага паляпшэння неабходная змена ўсяго гаспадарчага курсу дзяржавы, а гэта магчыма толькі тады, калі адумаецца польская большасць у гэтым жа Сейме. Які тады сэнс выбіраць сваіх прадстаўнікоў у парламент? Сэнс гэтага вось такі: калі будзе ў парламенце прадстаўнік беларусаў, дасць гэта нам магчымасць гаварыць пра свае справы самім, без пасрэдніцтва нейкіх аказіянальных адвакатаў беларускай справы. Мы, беларусы, нікому ў Польшчы не патрэбныя, акрамя як самім сабе. Калі не будзем мець свайго голасу ў парламенце, то ніхто за намі не закіне там слова, хіба што будзе мець у гэтым свой асабісты інтарэс, але ці такі голас нам патрэбны?

— *Якія найважнейшыя праблемы стаяць перад беларусамі Беласточчыны ў бліжэйшы час?*

— Беласточчына трымалася і пакуль што трымаецца на сельскай гаспадарцы. У мінулы перыяд, калі функцыянавала сацыялістычная гаспадарчая сістэма, гаспадар меў гарантаваны збыт на сваю прадукцыю і, што за гэтым ідзе, — меў грошы. Аплочвалася яму рабіць інвестыцыі, пасылаць сваіх дзяцей у гарадскія школы — гэтага спецыяльна тлумачыць не трэба. Зараз усё гэта развалілася і дарма ўжо спадзявацца, што будзе як раней. Польшча бышцам бы намагаецца падняцца з гэтага ўпадку да новага гаспадарчага ладу, але, калі глядзець на гэта з перспектывы гаспадара і яго інтарэсу — з мізэрнымі вынікамі. Замест прытрымаць у сваіх руках усходнія рынкі збыту, Польшча сама пераўтварылася ў рынак збыту для таннага, бо друга- альбо і трэцягатункавага, заходняга тавару. Канкурэнцыі з заходнім таварам, без дапамогі дзяржавы, не вытрымаць аніякаму польскаму прадуцэнту, а тым больш гаспадару з Беласточчыны, якая найболей з усіх рэгіёнаў Польшчы гаспадарча занядбаная. Сітуацыя Беласточчыны тым больш безнадзейная, што гэтак званая Усходняя Сцяна не прадстаўляе для палякаў асаблівай вартасці, у выніку чаго нельга спадзявацца на нейкія

( Працяг на стар.5)




## ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ

***

Паэтаў забіваюць
на вуліцах пустэльных.
Паэтаў забіваюць,
і таюць здрады цені.
А ў катухах-кватэрах
цалуюцца і б'юцца
Палітыкай сусветнай
захопленыя людцы.
І кніжак беларускіх
няма на іх паліцах.
Паэтаў забіваюць
на вуліцах сталіцы,
Так, як і голас іхні,
як іхнія надзеі,
Нячытаныя вершы,
прыдуманыя дзеі.
Паэтаў забіваюць
за волю, за адвагу.
Краіна не заўважыць
жалобных нашых сцягаў.
Але па гэтых вулках,
што смерць і здраду тояць,
Мішэнямі жывымі
паэты нашы ходзяць,
Без зброі, без аховы,
але — выбранцы ў свеце —
З прарочаю душою
і Беларуссю ў сэрцы.
...Паэтаў забіваюць...

## ЛЕТАПІС

Якая насалода —
жыць ціха і разумна,
Сам-насам з Панам Богам
па літарцы выводзіць,
Прасейваючы мудра
штогоднія падзеі —
Што вартае ўспаміну,
на што — папер не трапіць,
Свае жыццё, вядома,
не цэнячы настолькі,
Каб устаўляць у гэты
размераны аповяд.
Пісаць, як ахрысцілі
прыгожую яўрэйку,
Як выла яе маці;
Як жабракі хадзілі,
Як горад абляжылі,
пасля — знялі аблогу.
І дождж ішоў няспынна,
пасля — стаяла суша.
Якая насалода
пра вечнасць толькі думаць,
І ведаць, што адгорнеш
ранейшыя старонкі —
І ўпэўнішся: ніколі
не панавала шчасце,
Але заўжды і гора
канчаецца шчасліва,
І ўсё ідзе па кругу.
І за ўраджаем — голад.
І кожны герб калісьці
разрушчаць над магілай...
Сам-насам з Панам Богам
стварань так добра Памяць,
Далёка ад улады,
і ёй — непадуладна.



## ХРАНАЛОГІЯ ЭКАНАМІЧНЫХ РЭФОРМАЎ У ПОЛЬШЧЫ (1980-1990)

**1980**

Эканамічны і грамадска-палітычны крызіс у краіне ўскалыхнуў магутную хвалю рабочых страйкаў, закончаных падпісаннем так званых „Гданьскіх пагадненняў".

Утварыўся незалежны прафсаюз „Салідарнасць".

ЦК ПАРП утварае спецыяльную камісію па падрыхтоўцы эканамічнай рэформы.

**1981**

IX З'езд ПАРП прымае „Указанні да эканамічнай рэформы".

З'езд „Салідарнасці" ўхваляе праграму прафсаюза з болей радыкальным, чымсьці „Указанні", накірункам, але не дасягае згоднасці ў справе спосабаў рэфармавання польскай эканомікі.

Ваеннае становішча ў краіне. Дэлегалізацыя „Салідарнасці".

**1982**

Урад ваеннага становішча абвяшчае аб увядзенні эканамічнай праграмы, намечанай ва „Указаннях". Дзяржаўныя прадпрыемствы павінны перайсці на самафінансаванне і самакіраванне. Дзяржаўныя органы планавання і кіравання камандную сістэму ў эканоміцы павінны замяняць элементамі пасрэднай эканамічнай рэгуляцыі, адпаведнай грашовай і падаткавай сістэмай. Прадпрыемствы маюць права атрымліваць ліцэнзіі на непасрэдны ўдзел у замежным гандлі.

Цэны тавараў раздзелены на цвёрдыя (рэгуляваныя паводле калькуляцыі коштаў прадукцыі) і дамоўныя (свабодныя).

Прыняты закон аб дзейнасці малых замежных прыватных фірмаў, якія засноўвае польская эміграцыя, — так званых „паланійных фірмаў".

**1983**

Замест папярэдніх цэнтральных планаў і размеркавальнікаў уводзяцца ўрадавыя заказы і кантракты.

**1984**

Новы закон аб падатках ад даходаў на прадпрыемствах: у дзяржаўную казну прадпрыемства ўплочвае 60 % ад свайго даходу.

**1985**

Пад канец года толькі 102 прадпрыемствы атрымалі ліцэнзію на замежны гандаль. Прыбытак ад экспарту даюць 62 % прадпрыемстваў (планаваны паказальнік - 75 %).

Паступовая дэвальвацыя польскай залатоўкі.

**1986**

Закон аб дзейнасці суполак з замежным капіталам — так званых *joint ventures*.

Дзяржаўныя прадпрыемствы атрымліваюць права выпускаць аблігацыі.

( Працяг са стар. 5 )



## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



*Беласток. На вул. Млыновай.*
Мал. У. Петрука.

## ПАКРАЖА Ў ЯЛОЎЦЫ

Ноччу з 12 на 13 жніўня 1991 года невядомыя злачынцы абакралі царкву Уздзвіжання Крыжа Гасподняга ў Ялоўцы. Пакража адбылася паварварску, з вялікай нянавісцю да сакральнага аб'екта. Выглядала на тое, што злачынцы, гойсаючы па будынку царквы, перакідаліся між сабою літургічнымі прадметамі...

У нядзелю 11 жніўня ў царкве ў Ялоўцы адбыўся вянец. Маладыя пакінулі там шмат кветак. У панядзелак у царкву схадзіла матушка, каб усё там упарадкаваць. Пад вечар пачало псавацца надвор'е — выглядала, што надыходзіць навальніца. У Ялоўцы не было электрычнасці. Настаяцель прыхода айцец Яўген Канаховіч шмат напрацаваўся гэтага дня каля гаспадарскіх спраў і збіраўся раней на адпачынак. Матушка запаліла ў хаце свечкі, каб пачытаць. Нягледзячы на вялікую стому, айцу Канаховічу не спалася гэтае ночы — адзывалася слабаватае ўжо сэрца. Каля другой гадзіны ночы ён падняўся з пасцелі, каб прыняць лякарства. Падумалася яму, што добра было б паглядзець на вуліцу. Адшукаў ліхтар і пасвяціў праз вакно — царква і плябанія ўсяго праз вуліцу. Калі слабое святло ліхтара праслізнулася па мурах царквы, айцу Канаховічу здалося, што чуе нейкія галасы. Ліхтар быў, аднак, да таго слабы, што нельга было нічога дакладна разгледзець. Калі айцец Канаховіч пасвяціў другі раз, пачуў як бы тыя самыя галасы, толькі што даходзілі ўжо з іншага месца. Падумалася яму, каб узяць мацнейшы ліхтар, выйсці на панадворак і разгледзецца ў тым, што там адбываецца. Адчуваў, аднак, сябе не надта добра — адшукаў сваё лякарства, прыняў яго і прасядзеў за сталом да чацвертай гадзіны раніцы ў аўторак 13 жніўня.

Раніцай айцец Яўген Канаховіч пачаў хадзіць за гаспадарскімі справамі. Калі спатрэбіўся яму кавалак кабеля, прыпомніў сабе, што мае такі ў царкве. Падаўся праз вуліцу ў царкву. Бакавыя дзверы былі крыху прыадчынены...

— Тут жа, — расказваў мне айцец Канаховіч, — прыгадаліся мне начныя галасы. На дзвярах я заўважыў выразныя знакі ад нейкай жалезнай прылады. Першае, што кінулася мне ў вочы, калі я ўвайшоў у царкву — гэта насцеж адчыненыя Райскія Вароты. Гэтага ніколі не бывала. На падлозе, між іншых рэчаў, параскіданыя іконы (іх было 48, на ўвесь год). Я хацеў быў крыкнуць, але адчуваў, што слабею, у мяне перапяло дыханне, хацеў быў бегчы, але ногі адмовілі...

З царквы Уздзвіжання Крыжа Гасподняга ў Ялоўцы злачынцы забралі агулам пятнаццаць рэчаў, сярод якіх былі: напрастольны крыж з XVII стагоддзя, меншы напрастольны крыж з XVIII ст., пазалочаная дараносіца з поўным абсталяваннем, пазалочаная талерка на прасфоры, дзве іконы, чаша.

У Ялоўцы жывуць адны беларусы. Розніца паміж імі такая, што адны з іх праваслаўныя, а іншыя католікі. Канфліктаў паміж імі не бывае. Калі людзі сталі задумвацца, хто мог учыніць гэтае злачынства, прыпомнілі сабе, што месяца паўтара назад праз Ялоўку праязджала веласіпедная экскурсія, якая хацела паглядзець царкву, але іконы, літургічныя кнігі, архітэктура не надта цікавілі ўдзельнікаў экскурсіі.

Расследаванне пакражы ў Крыжаўздзвіжанскай царкве ў Ялоўцы вядзе беластоцкая паліцыя. Гэтай жа самай ночы, з 12 на 13 жніўня, падобная пакража адбылася ў царкве ў Семяноўцы.

АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК

## З ДЗЁННІКАЎ С. ЯНОВІЧА

**Дзённікі я пачаў весці ад канца шасцідзесятых гадоў, калі сарыентаваўся, што гэта можа мець значэнне. На сёння ўсіх іх трыццаць тры сшыткі, з якіх дваццаць дзевяць захоўваюцца за мяжою (у ваеннае становішча ў Польшчы пагражала майму архіву канфіскацыя тайнай паліцыяй). Запісы, якія я намераны публікаваць у „Ніве", адносяцца перш за ўсё да пачаткаў фармавання беларускага палітычнага руху ў нас ды майго ўдзелу ў ім. Так задуманая падборка тэкстаў павінна даць зацікаўленаму чытачу больш падрабязную інфармацыю пра закулісныя механізмы ўзнікнення шмат-якіх фактаў, вядомых толькі ў сваёй фінальнай форме. Важны таксама клімат мінулых дзён, здавалася б, неістотныя на першы выгляд здарэнні, рэфлексіі.**

САКРАТ ЯНОВІЧ

**18-12-1987 г. Беласток.**

10-га вярнуліся з Лондана. Гара пісем і справаў! І фрустрацыя: беларуская нацыя ў руінах, а Скарынінка паступова пераўтвараецца ў англійскі інстытут, эміграцыя вымірае, бяда з беларушчынай у Беластоцкім Краі, адусюль абступае драбнота і бездапаможнасць, нібы пабольшвае беларускай культурнасці ды, адначасна, набывае яна рысаў бесперспектыўя элітарнасці...

„Res Publica" н-р 4 — Бэргманіха „Na Białorusi" (пераказ — „Закон і вакол закона", публ. „ЛіМ"). „Przegląd Katolicki" н-р 50 — каментар „Przesłanki pojednania" (пасечаны цэнзураю, пра тую эзуіцкую сесію ў Лодзі). А мой — „Ніва" ад 13-га.

„Bez debitu" н-р 3 — часопісік беластоцкіх паднольнікаў — малаінтэлігентная інтэрпрэтацыя „Białorusi, Białorusi", месцамі працяцкая (аж два артыкулікі). Беластоцка-польская.

„Ніва", 22.XI. — Вапы (?) „Сакрат Яновіч у Варшаве". Здзівіла мяне так радасная ацэнка тае сустрэчы! — І яшчэ раз „Ніва" (6.XII.) — „Музыкі ў Шудзялаве".

Кінуць усё пад халеру, узяцца за пяро!

## З „ВЫБАРЧАЙ СТУДЫІ"

**(Беларускі выбарчы камітэт, 11.09.1991)**

*— На Беласточчыне, акрамя Беларускага выбарчага камітэта, у выбарах выступае Выбарчы камітэт праваслаўных. Абодва Камітэты адклікаюцца да больш-менш таго самага электарату — да праваслаўных на Беласточчыне. Чаму існуюць два выбарчыя камітэты: беларускі і праваслаўны?*

**Пятро Крук:** Мы з'яўляемся камітэтам нацыянальным, беларускім. Выступаем з праграмай нацыянальнага адраджэння: палітычнага, эканамічнага, культурнага. Прытым не скрываем, што як нашы кандыдаты, так і ўдзельнікі БВК — людзі праваслаўнага веравызнання. Аднак, выкарыстанне рэлігійнага элементу як найважнейшага ў выбарчай кампаніі лічым няправільным. Для нас Праваслаўе з'яўляецца істотным элементам духоўнасці беларусаў у Польшчы, але перад усім — як унутраны фактар. Увядзенне рэлігіі ў палітычнае змаганне лічым непатрэбным: тое, што ўнутранае і дарагое, раптам становіцца прадметам палітычнай спекуляцыі, падлягае грамадскай дэвальвацыі ў не заўсёды чыстай атмасферы палітычнай гульні. Інакш кажучы: атрымліваецца шмат гаворкі аб рэлігіі, а штораз менш веры.

*— Чаму ставіце сваіх кандыдатаў у краёвы спісак асобна, а не разам з Выбарчым блокам меншасцяў, у якім выступаюць украінцы, літоўцы, чэхі і славакі? Ці на гэта не паўплывала тое, што шмат хто абвінавачвае ваш Камітэт у посткамуністычным паходжанні?*

**Алег Латышонак:** Я гэткіх абвінавачванняў асабіста не чуў. Што тычыцца ўкраінцаў, якія з'яўляюцца „паравозам" таго другога меншаснага камітэта, то справу вырашыла зусім іншая сітуацыя. Мы жывем на сваёй зямлі, а ўкраінцы, у выніку перасялення, былі распылены па ўсёй краіне. Іхняя эліта ставіць сабе іншыя палітычныя мэты. Яны прысвяцілі сябе будаванню мастоў паміж Польшчай і Украінай, а мы мусім змагацца, скажам, за новыя дарогі на сваёй зямлі, за ўратаванне сельскай гаспадаркі...

Калі ўжо гаварыць пра тое, што беларусаў увогуле абвінавачваюць у камуністычных схільнасцях, дык гэта сітуацыя характэрная кожнай меншасці; меншасць такая мусіць быць лаяльная ўладзе ў значна большай ступені, чымсьці пануючы народ. Гляньма, у чым абвінавачваюцца палякі ў Савецкім Саюзе: камандзіры ОМОНу ў Літве — гэта палякі, гэта іхнія найлепшыя салдаты...

ям

## ПЕРАД НАМІ ШМАТ ПРАЦЫ

**( Працяг са стар. 3 )**

будучых пакаленняў. Яны павінны задбаць пра тое, каб павысіць узровень жыцця на вёсцы, стварыць там жыццёвыя магчымасці для моладзі.

*— Агульны крызіс у Польшчы не абмінуў і культуру: ці Вы як пісьменнік бачыце нейкія спосабы выратавання Беласточчыны ад культурнага заняпаду?*

— Занядбанні ў галіне культуры штораз большыя — спрыяюць ім абставіны, якія стварае сама дзяржава. Дзяржава, не маючы грошай, ліквідуе бібліятэкі і бібліятэчныя пункты, зачыняе дамы культуры — гэта і ёсць тыя тармазы, якія спыняюць развіццё культуры. Наш беларускі актыў павінен выязджаць на беларускую вёску ды прадстаўляць там культуру, якую ствараем у горадзе. Трэба таксама ўзмоцніць прапаганду „Нівы" — яна практычна пушчана на самацёк, яе тыраж паніжаецца. У многіх школах, дзе раней вялося навучанне беларускай мовы — гэтую мову ліквідуюць. І тут жа зноў вялікая роля беларускага актыву — трэба падтрымаць настаўнікаў, дапамагчы ім. Роля будучых паслоў і сенатараў такая, каб у рэшце рэшт беларуская мова была ў школах Беласточчыны абавязковым прадметам. Трэба дамагацца, каб польскія асветныя ўлады выдалі ўрэшце падручнікі для навучання беларускай мовы і літаратуры. Асабіста лічу, што калі Беларусь стане поўнасцю незалежнай дзяржавай ды калі ўладкуюцца яе адносіны з Польшчай, то менавіта яна зможа нам дапамагчы ў развіццi нашай нацыянальнай культуры.

## ДАПАМОЖАМ САБЕ САМІ

**( Працяг са стар. 3 )**

дзяржаўныя інвестыцыі тут. Уся надзея ў тым, каб узяць свой гаспадарчы лёс ва ўласныя рукі ды ствараць рэгіянальную інфраструктуру — сетку дробных прадпрыемстваў, якія пераапрацоўвалі б сельскагаспадарчую прадукцыю ды змаглі б такім чынам канкураваць з іншымі рэгіёнамі Польшчы. Гэту канцэпцыю — Злучнасць гмінаў Усходняй Беласточчыны — апрацавалі дзеячы Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. Надзею на выратаванне ад гаспадарчай катастрофы дае таксама гандаль з суседняй Беларуссю. Шмат хто сумняваецца, ці Беларусь у змозе расплаціцца за тавар з Беласточчыны. Я да гэтага стаўлюся інакш: Беларусь ці нейкая іншая рэспубліка мусяць мець чым заплаціць, бо ім жа таксама выжыць трэба.

Што датычыць беларускай культуры на Беласточчыне, дык лічу, што ў бліжэйшы час будзе яна развівацца ў такой ступені, у якой дафінансуе яе дзяржава. Дзеля адраджэння і росквіту культуры неабходны матэрыяльны дастатак, а гэта ў бліжэйшы час нам не пагражае.

*— Калі б Вы былі выбраны ў Сейм, у працы якіх камісіяў хацелі б удзельнічаць?*

— Яшчэ не пара над гэтым задумвацца. Калі б фактычна так сталася, што быў бы я выбраны ў паслы, дык варта было б працаваць у тых сеймавых камісіях, у якіх можна служыць інтарэсам сваіх выбаршчыкаў. Так, перад усім мусіў бы памятаць, хто я і хто мяне выбраў, — гэта самае істотнае.

## ХРАНАЛОГІЯ ЭКАНАМІЧНЫХ РЭФОРМАЎ У ПОЛЬШЧЫ (1980-1990)

**( Працяг са стар. 4 )**

**1987**

Заснаваны Банк падтрымкі экспарту з правам даваць крэдыты ў замежнай валюце.

Замест некалькіх міністэрстваў па асобных галінах прамысловасці ўтворана адно Міністэрства прамысловасці.

З увагі на няўдачу дагэтуляшніх рэфарматарскіх намаганняў план другога этапу рэформы (так званы „перыяд прыспешвання") выносіцца на акцэптацыю ў агульнанародным рэферэндуме. Рэферэндум гэткай акцэптацыі не прыносіць.

**1988**

Кантраляваныя ўрадам цэны ўзрастаюць у сярэднім на 40 % (прадукты харчавання — 27 %, паліва і энергія — 100 % ); рост цэнаў урад часткова кампенсуе надбаўкамі да зарплаты.

Банкавы закон уводзіць двухступенную банкавую сістэму: акрамя Польскага нацыянальнага банка арганізуецца сетка камерцыйных банкаў.

Знімаюцца абмежаванні на абаспоўванне прыватных прадпрыемстваў ды іхні памер. Наступае далейшая лібералізацыя замежнага прадпрымальніцтва: уводзяцца падатковыя льготы, аблягчаюцца працэдуры адводжвання даходаў за мяжу краіны, знімаецца ліміт на ўдзел замежнага капіталу.

**1989**

Уводзяцца новыя мытныя тарыфы, дапасаваныя да заходнееўрапейскіх.

Фінансавы закон легалізуе трансакцыі ў замежнай валюце паміж фірмамі і прадпрыемствамі ў краіне і дае экспарцёрам права ўласнасці на даходы ў замежнай валюце.

Паступовая дэвальвацыя польскай залатоўкі.

Кепска падрыхтаваная ўрадавая рэгуляцыя цэнаў на большасць спажывецкіх тавараў дае рантоўны скачок гіпер-інфляцыі, нечаканыя і адчувальныя дэфіцыты ды агульны эканамічны разлад.

Да ўлады прыходзіць салідарніцкі ўрад Т. Мазавецкага.

**1990**

З пачаткам года ўводзіцца радыкальны эканамічны план („шокавы план Бальцаровіча").

Знімаецца кантроль над цэнамі за выняткам цэнаў хлеба і малака, паліва, аплатаў за транспарт і кватэры.

Кантраляваныя цэны энергіі павялічваюцца на 300-600 %.

Вызваляюцца цэны вугалю, коксу і электраэнергіі для прамысловасці.

Уводзіцца аднолькавы курс абмену залатоўкі на долар: 9500 зл. : 1 ам. д. Дасягаецца ўнутраная канверсія залатоўкі. Фірмы-экспарцёры абавязаны прадаваць свае заробкі ў замежнай валюце польскім банкам.

Польскі нацыянальны банк, забяспечаны стабілізацыйным крэдытам з Міжнароднага валютнага

**( Працяг на стар. 6 )**

****************************************************************************

Аўтарскі вечар Чыквіна (14-га). У новым Клубе ZLP (чытальня МПіК). Мізэрнота, правінцыяльны акадэмізмік, дактаранцкая тэарэтызацыя. Трэба было пайсці, бо... гэта беларускі (былі: Смашч, Леанчук, Артымовічанка, Янік, Камінскі, Вайдык і яшчэ нехта).

(...)

**31-12-1987 г.**

Сяджу адзін дома ў гэты апошні вечар адыходзячага года (Таня спіць, хварэе). За чаркай каньяку і кубачкам кавы ўспамінаю далёкія навагоднія вечары, тыя радасці і надзеі, маладосць беластоцкую, і бачу, як ішлі ды ішлі мы, беларусы, да разбітага карыта (на наіўнасці сваёй, гістарычнай бязвопытнасці). Хоць „І адна ластаўка — вясна?" задумваецца літоўка (у „ЛіМе" ад 25-га). „А вышсце так і не знойдзена..." — як бы ўторыць ёй там жа нейкі недапраследаваны беларусец. Чэсь Адамчык выратоўвае ад беларускай подласці памяць пра Ларысу Геніюш, прабіўшыся з публікацыяй Яе лагерных вершаў.

— З'явіўся дзевяты нумар „Poezji". Друкуюць маё выказванне, пра якое я ўжо і забыўся (некалі адказваў на абрыдлую анкету).

У „Ніве" — Адзе — здаў ужо чатыры ўрыўкі „Занатовак з Англіі". І хоць я па-за рэдакцыяй (з канцом '87), аднак на гэтай кадравай пустыні буду патрэбны ім.

Трэці месяц не пішацца. У друк пайшлі ўсе апавяданні.

Паштоўкі м.ін. ад Брыля, Мальдзіса.

**14-01-1988 г.**

Каляду святкавалі ў Барадоў. Як бы адразу і ўваходзіны ў іх новы дом (на Багноўцы). Была Мама. — Ангельская зіма ў нас.

„Наша пошта" ў „Ніве" ад 10-га: свайго роду падзяка за працу ў рэдакцыі.

„Zmory Leończuka" у „Кур'еры П." ад 8-10 студз. Нейкі тандэм...

Падпісаў я ўмову з „Іскрамі" на новую кніжку. Страшнавата, ці здолею напісаць яе... Снапкевіч прычапіўся, упераканаў.

А тут чарговая макабра ў „ЛіМе": Брыля „Накіды трох партрэтаў" і інш.

Наведаў „Ніву" — заўчора — адзін з аніматараў палескай літаратуры (і нававанцаў?), журналіст раёнавай газеты ў Драгічыне... Беларускай — канцы! А палеская родзіца. Як вынік слабасці беларускай? Калі б з палякамі была падобная бяда, то татранскія горцы гэтак жа адасобіліся б...

Захапляе паэзія Алеся Разанава!

*(Працяг будзе)*

**Тлумачэнні:**

„ЛіМ" — мінскі часопіс „Літаратура і Мастацтва".

ZLP — Związek Literatów Polskich.

МПіК — Klub Międzynarodowej Prasy i Książki w Białymstoku.

Барадоў — дом швагра Яўгена Барады ў Беластоку.

„Іскрамі" — Państwowe Wydawnictwo „Iskry" w Warszawie.

Скарынінка — Беларуская Бібліятэка і Музей імя Ф. Скарыны ў Лондане.

... езуіцкую сесію — ксяндзы-езуіты арганізавалі ў кастрычніку 1987 г. у Лодзі навуковую сесію, прысвечаную яднанню палякаў з украінцамі, беларусамі, літоўцамі.

## ХРАНАЛОГІЯ ЭКАНАМІЧНЫХ РЭФОРМАЎ У ПОЛЬШЧЫ (1980-1990)

( Працяг са стар. 5 )

фонду, утрымлівае ўнутраную канверсію залатоўкі.

Знесена большасць абмежаванняў на імпарт і ўведзены адзін мытны тарыф.

Польскі нацыянальны банк дзейнічае як цэнтральны банк, а функцыі крэдытна-дэпазітных банкаў выконвае сетка камерцыйных банкаў. Гвалтоўна павышаюцца банкавыя працэнты з мэтаю ўвесці фінансавую дысцыпліну і заахвоціць ашчаджаць.

Нацыянальны банк надзелены заданнем утрымаць наплыў грошай ніжэй узроўню інфляцыі.

У план ліквідацыі бюджэтнага дэфіцыту ўваходзіць рэзкае абмежаванне субсідыяў для прамысловасці з адначасовым павелічэннем прамысловых падаткаў.

Рост зарплатаў абмяжоўваецца рэпрэсійным падаткам (ажно да 500%) — так званы *popiwek*. Адначасова наступае значнае павышэнне коштаў утрымання і спажывання, якое не кампенсуецца заробкамі насельніцтва. Такім чынам у стабілізацыйным плане Бальцаровіча паяўляецца „несістэмны" элемент — зніжэнне рэальных заробкаў і — у выніку -зніжэнне ўзроўню жыцця.

**Паводле**
*Economic Reform Today*

апрацаваў
**ЯН МАКСІМЮК**

## СВЯТА УСПЕННЯ Ў НАРОЙКАХ





Ужо чатырыста гадоў таму назад парафіяне наройскай Успенскай царквы святкавалі сваё парафіяльнае свята. Упершыню царква ў Наройках выступае ў дакументах з 1595 года. Змяняліся ўладальнікі Нароек, змяняліся святары ў царкве, аднак, урачыста ўшанаванае свята Успення аставалася. Варта думаць, што так ёсць не толькі з прычыны яго важнасці ў царкоўным календары, але таксама ў старажытнай традыцыі.

Па царкоўнаму навучанню Успенне Мацеры Божай гэта земская яе канчына. Яна памерла без мук, проста заснула. Яе цела, нятленнае, было ўзята Ісусам Хрыстом у неба. Там яна стаіць пры Боскім прыстоле і, як царыца зямлі і неба, просіць у Госпада Бога змілавання над людзьмі. У традыцыі свята Успення звязана з дажынкамі, падзякаю Богу



****************************************************************************************

## ЧАМУ МЫ БЕДНЫЯ?

Многа гаварылася апошнім часам пра рэформу школьніцтва. Спецыялісты працавалі над новымі праграмамі, ствараліся грамадскія і прыватныя школы. Сёлета ўсе планы, здаецца, лопаюць з-за аднаго — нястачы фінансавых сродкаў. У навучальным годзе 1991/1992 бюджэт на асвету зменшыўся на 3,7 %, што толькі ў Беластоцкім ваяводстве дае суму 17 мільярдаў 704 мільёны злотых.

Яшчэ ў маі г.г. Міністэрства нацыянальнай адукацыі запрапанавала абмежаваць выдаткі ў галіне асветы і выхавання да фінансавых магчымасцяў. Можна гэта зрабіць — пісалася ў пісьме міністэрства — абмежаваўшы працу школаў і выхаваўчых асяродкаў толькі да падставовых іх функцыяў, шукаючы дадатковыя сродкі з пазабюджэтных крыніц і дамагаючыся ад органаў тэрытарыяльнага самакіравання вызвалення ад падаткаў. Сярод канкрэтных пастулатаў знайшліся такія пункты:

— абмежаваць да неабходнага мінімуму бягучыя і капітальныя рамонты,

— абмежаваць да неабходнага мінімуму пакупку школьнага абсталявання і дыдактычных дапаможнікаў,

— абмежаваць матэрыяльную дапамогу вучням толькі да неабходных выпадкаў,

— абмежаваць датацыі на летні адпачынак дзяцей і школьнай моладзі,

— у большай ступені падключыць бацькоў да фінансавання давозу дзяцей да школаў,

— скараціць неабавязковыя заняткі і гурткі зацікаўлення,

— злучыць школьныя класы аднаго ўзроўню (да 35 вучняў),

— заблакаваць да канца 1991 г. вольныя штатныя адзінкі, за выключэннем найбольш неабходных. Зрэшты, усе іншыя пункты міністэрыяльнай прапановы былі сфармуляваны падобным чынам: абмежаваць, адмовіцца, перастаць... Затое „няма ніякіх перашкод, каб кожная школа зараблялa на сябе (рознага тыпу курсы, наём памяшканняў, выдавецкія паслугі і т.п.). Прыбытак з гэтай дзейнасці можна ўлажыць на асобны банкавы рахунак і выкарыстаць на паляпшэнне ўмоваў функцыянавання школы".

Гэта былі толькі прапановы. 24 жніўня міністр адукацыі выдаў распараджэнне ў справе арганізацыі навучальнага года. І так, пачатковыя і сярэднія школы павінны абрэзаць у кожным класе з абавязковых заняткаў па чатыры гадзіны ў тыдзень. Нельга прытым ліквідаваць навучанне ніводнага прадмета, не мяняецца таксама агульная праграма навучання, а ў апрацоўцы новых падрабязных планаў будуць дапамагаць куратары. На ўсе неабавязковыя заняткі, гурткі зацікаўлення не прызначаецца ані залатоўкі — на практыцы абазначае гэта іх ліквідацыю. Школы павінны „рацыяналізаваць выкарыстанне часу працы эканамічных, адміністрацыйных і тэхнічных працаўнікоў", што фактычна зводзіцца да скарачэння штатаў.

Як такія абмежаванні адаб'юцца на навучанні беларускай мовы? Дырэктар раённага прадстаўніцтва Куратора асветы і выхавання ў Бельску Ян Коц праінфармаваў мяне, што з дасланых з паасобных школ прапаноў раскладаў не відаць, каб навучанне беларускай мовы пацярпела. Напэўна не ў большай ступені, чымсьці навучанне іншых прадметаў. Напрыклад, урокі польскай мовы зусім не павінны скарачацца, але дырэктары, асабліва ў першых класах, не маюць чаго выкінуць і рашаюцца на такі крок. Скарачаюцца ў пачатковых школах гадзіны фізічнай культуры, хаця таксама не павінны.

Не ведаю дакладна сітуацыі беларускай мовы ва ўсіх школах, але ў найбольшай — у бельскай „тройцы" навучанне яе не зменшылася ні на гадзіну. Таксама ў ліцэях практычна нічога не памянялася. У Бельску, праўда, у двух першых класах беларуская мова скарацілася на гадзіну ў тыдзень, але тыя, што не вывучалі яе ў пачатковай школе, будуць мець дадатковы ўрок. Гэтае абмежаванне часовае, сказала мне намеснік дырэктара ліцэя Зінаіда Навіцкая.



Дырэктар Ян Коц верыць таксама, што абмежаванні ў асвеце часовыя, інакш, кажа, не было б яму ніякага сэнсу сядзець у кураторыі. Да таго, бельскі раён на фоне краіны выглядае зусім прыстойна. Школы працуюць нармальна, вядзецца некалькі новых пабудоў, няма практычна беспрацоўя сярод настаўнікаў. Самае галоўнае — перапрываць зіму, арганізаваць давоз вугалю, а там, вясною, будзе час падумаць, што далей. Аптымізм прадстаўніка асветніцкіх улад,



за ўраджай, добрае жніво. Таму большасць вернікаў у гэты дзень свяціць каласкі жыта, аўса і другіх раслін, каб вясной пасеяць іх (пасвячаныя) у зямлю, а ў наступным годзе прынесці іх зноў у царкву і падзякаваць Богу.

**А. МІРАНОВІЧ**

**ФОТА У. ПЕТРУКА**









*************************************************************************************************

безумоўна, цешыць. Ці вытрымае ён канфрантацыю з рэчаіснасцю?

Увесь сэнс сёлетніх абмежаванняў у школьніцтве зводзіцца да аднаго — ашчадней і эфектыўней працаваць, выкарыстаць прыхаваныя магчымасці. Няма нічога дрэннага ў тым, што скараціўся тыднёвы план урокаў, гаворыць дырэктар Пачатковай школы н-р 3 у Бельску Васіль Ляшчынскі. Вучні былі перагружаны заняткамі ў школе, напрыклад, у сёмым класе 34 гадзіны ў тыдзень. Ад такога скарачэння не абавязкова павінна пацярпець праграма навучання. Толькі планы трэба рабіць з галавою, а не трах-прах, распараджэнне і ўсё. Але можна засумнявацца ў здаровым мысленні высокапастаўленых начальнікаў, калі з цэнтральнага раздзелу прысылаюць зусім непатрэбныя дыдактычныя дапаможнікі (пару дзесяткаў планш з нервовай сістэмай чарвяка, напрыклад), калі грошай няма на крэйду. На Бельск, горад і гміну, такіх дапаможнікаў прыйшло на некалькі соцень мільёнаў.

Нашыя прадзеды, мудрасць якіх захавалася ў народных показках, дакладна ведалі, што галеча і дурнота ідуць заўсёды разам. Ну, але гэта быў у большасці непісьменны народ.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

## ПЕРШЫ ТЫДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

**( Працяг са стар. 1)**

На ступеньках перад будынкам ЦК прамаўлялі рабочыя і палітычныя дзеячы апазіцыі. Выказваліся горкія словы ў адрас нядаўніх гаспадароў гэтага гмаху. Патрабавалася хутчэйшага і болей паслядоўнага выконвання апошніх пастаноў Вярхоўнага Савета рэспублікі. Усе прамоўцы заяўлялі аб канцы камунізму, але будучыня для мяне выглядала даволі цьмяна.

На гэтым мітынгу папрасіў я пару слоў у Лявона Баршчэўскага, намесніка старшыні БНФ „Адраджэнне", дэпутата Вярхоўнага Савета. Спадар Баршчэўскі сказаў: „Пастановы Вярхоўнага Савета будуць ажыццяўляцца, нягледзячы на тое, што выканаўчыя органы ўлады ў старых руках. Памяняць чыноўнікаў на новых няма магчымасці, бо дэмакратычны рух у Беларусі слабы. Ягоныя структуры ўтварыліся толькі ў вялікіх гарадах, у малых мясцовасцях ён толькі нараджаецца. Патрабаваць змены ўрада можам тады, калі ў парламенце сённяшняя апазіцыя будзе мець большасць, інакш праца ўрада немагчымая. Таму найперш трэба прыняць закон аб дэмакратычных выбарах, нававыбраны парламент памяняе Канстытуцыю, і толькі тады можна будзе мяняць уладу на ўсіх узроўнях."

Ад спадара Баршчэўскага даведаўся я, што з-за недахопу часу не былі прыняты пастановы аб змене назвы рэспублікі і дзяржаўных сімвалаў. Але апазіцыя адпаведныя дакументы падрыхтавала і напэўна на адной з чарговых сесіяў яны будуць разглядацца. І так, здаецца, аджыве свой век БССР, а яе месца зойме Рэспубліка Беларусь.

— Ці ў выніку — на гэты раз дэмакратычных — выбараў да ўлады могуць прыйсці зноў камуністы? — пытаю я ў Лявона Баршчэўскага. „Многія з іх да ўлады могуць прыйсці, але напэўна ўжо пад новай назвай. Але ж структуры застаюцца надоўга, а трэба памятаць, што Камуністычная партыя Беларусі — адна з найвялікшых у свеце, калі лічыць на душу насельніцтва (яшчэ два гады таму 600 тысяч на 10-мільённы народ). Аднак, і яны сваю самарэалізацыю бачаць у рамках Беларусі. Ідэю незалежнасці падтрымала партыйная наменклатура, дырэктары буйных прадпрыемстваў, па сутнасці антырыначныя элементы, хаця для нас — апазіцыі — яна цесна спалучаецца з рыначнай сістэмай."



Пакінуў я Беларусь 1 верасня. Мінуў першы тыдзень незалежнасці — „сапраўднай, не на паперы", як пісалі мінскія газеты. А ў мяне складвалася ўражанне, што вырашэнне павінна яшчэ прыйсці. Рэспубліка навонкі не змянілася, апазіцыя пакуль не здольная пераняць уладу, а Масква маўчыць — неяк праігнаравала беларускія памкненні да самастойнасці.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

P.S. 5-га верасня Мінскі гарадскі савет прыняў пастанову аб змене назвы горада на: Менск. Праспект Леніна быў перайменаваны на Праспект Скарыны, а Плошча Леніна на Пляц Незалежнасці. Над Гарадскім саветам вісяць два сцягі: бээсэсэраўскі (чакае адпаведнае пастановы Вярхоўнага Савета рэспублікі) і нацыянальны беларускі — бел-чырвона-белы.

# ЦІ БУДЗЕ РАСКРЫТА ТАЯМНІЦА БЕЛАВЕЖСКАГА ДУБА?

Пра дуб, на якім паявіўся вобраз людской галавы, я ўжо пісаў у „Ніве" н-р 30 ад 28 ліпеня г.г. Да гэтай тэмы вяртаюся таму, што выявіліся новыя факты.

Дуб, як чытачы памятаюць, расце ў Палацовым парку ў Белавежы. Вобраз узнік на месцы па адрэзанай тоўстай галіне. Турысты, якія трапляюць у мястэчка, карыстаючыся нагодай, прыходзяць глядзець нязвыклую з'яву. Нехта з іх звярнуў увагу, што дрэва выдзяляе нейкую энергію. Яе можна адчуць, працягваючы ў напрамку дрэва раскрытыя далоні. Энергія ўваходзіць тоненькім ручайком у кончыкі пальцаў. Некаторыя адчуваюць у той момант дрыжыкі ў руках і іншых месцах на целе. У многіх людзей складаецца ўражанне, быццам яны адрываюцца ад зямлі ці ступаюць па хвалях. Амаль кожны, праз некалькі мінут эксперыменту пры дрэве, скардзіцца на прыгнёт галавы або скроняў. Мы супольна з доктарам Сяргеем Тарасевічам правялі пяць ці шэсць такіх даследаванняў. За кожным разам адыходзілі мы з таго месца на вялых нагах, надта змучаныя. У мяне нат язык заплятаўся. Аднойчы С.Тарасевіч выявіў спосаб на вызваленне ад стомленасці. Трэба павярнуцца да дрэва плячыма і прысесці ля яго. Як рукой зніме!

Калі мы даследавалі дуб, заўжды надыходзіў да нас хтосьці з турыстаў і распытваўся, што мы робім. Потым яны самі прабавалі эксперыментаваць. Дзякуючы такім „памочнікам", мы выявілі два кругі, у якіх наймацней адчуваецца энергія. Першы знаходзіцца ў адлегласці аднаго-двух крокаў, другі ў 12 кроках ад дрэва. Адлегласць гэта можа мінімальна мяняцца.

Мы са здзіўленнем адкрылі таксама, што ў надта ўражлівых людзей на скуры рук паяўляюцца белыя плямы. Яны знікаюць толькі тады, калі такі чалавек адыйдзе ад дрэва па-за другі круг. У Пятра Дваракоўскага, які даследаваў наваколле дрэва пры дапамозе радыестэзійнай палачкі, мы назіралі белізну паловы пальцаў абодвух рук.

І яшчэ адна незвычайная прыкмета! Некаторыя людзі, стоячы пры дрэве, або нат толькі думаючы пра яго, адчуваюць асаблівыя імпульсы, якія бягуць з зямлі праз ногі ў галаву, у постаці вібрыруючай хвалі.

Пару разоў прабавалі мы з сябрам угледжвацца ў постаць на дубе. Кожны з нас меў такое ўражанне, быццам твар таго чалавека мяняўся, быццам было іх некалькі.

Аднойчы мне прыйшло на думку, што ў сувязі з гэтым дубам надта часта паяўляюцца лікі 1 і 2 або 12. Вось, напрыклад! Памеры месца, з вобразам галавы: 06, + 0,6 м = 1,2 м. Кругі энергіі ў 1-2 або 12 крокаў. Пульсаванне рук, прыбліжаных да дрэва: 12 пульсаў у адной руцэ на працягу адной мінуты. І калі нейкага дня Вера Гвай спытала ў мяне, ці я ведаю, што пад дубам расстраляна ў 1920 г. (сума лічбаў ізноў: 12) і пахавана ... 12 бальшавікоў, я адчуў сябе так, быццам расшыфраваў таямніцу.

Спадарыня Вера мяркуе, ці душы тых расстраляных часам не патрабуюць чагосьці ад нас? Мо малітвы? Мо хрысціянскага пахавання? А мо — проста памяці? Цікава, што пра факт расстралянія немалой усё ж групы людзей ніхто і ніколі ў Белавежы не гаварыў. Сп. Вера паясняе, што пра гэтае здарэнне даведалася яшчэ ў міжваенны перыяд. Яна са сваімі сяброўкамі парадкавала якраз паркавую алею перад палацам (тады ён яшчэ тут стаяў), калі да іх падыйшоў незнаёмы і спытаў, ці яны ведаюць, што непадалёку, побач дуба, атрад войска Пілсудскага расстраляў 12 бальшавіцкіх салдатаў? Сярод іх знаходзілася жанчына-камісар.

— Мы тады, — працягвае сп. Вера, — ніякай увагі на гэта не звярнулі. І вось толькі цяпер, калі на дубе паявіўся вобраз людской галавы, я адразу ўспомніла тое, што нам той незнаёмы гаварыў.

Што ж, хіба засталося толькі праверыць — ці сапраўды пад тым дубам пахаваны людзі? Хто гэта зробіць? Асабліва ў такі неспрыяльны для бальшавікоў час...

**Пётр Байко**

************************************************************




Дарагое Сэрцайка!

Мая сястра была студэнткай іберыстыкі ў Варшаве, калі пазнаёмілася на нейкай сустрэчы з дыпламатам з Мадрыда. Ёй было 22 гады тады, а яму, здаецца, гадоў 45. Быў цалкам прыстойны і яшчэ не стары. Калі сястра мая пазнаёміла мяне з ім, мне ён вельмі спадабаўся. Яны пачалі сустракацца. Пра яго сямейны статус сястра нічога не пытала ні ў яго, ні ў яго сяброў, а яны былі надта дыскрэтныя і на гэткія тэмы з ёю не размаўлялі. Мала-памалу, і мая сястра закахалася ў гэтага чалавека. Сапраўды, быў ён вельмі мілы і можна было яго пакахаць.

Час ішоў, і каханаму маёй сястры трэба было вяртацца ў Іспанію. Тым часам закончыла універсітэт і мая сястра. Нічога нікому не гаворачы, не паведамляючы нават бацькоў, яна сабрала свае манаткі і выехала за гэтым чалавекам у Мадрыд.

Мы пра яе фактычна нічагуткі не ведалі, хаця рэгулярна атрымоўвалі ад яе лісты, у якіх паведамляла няшмат: што жывая і здаровая, і што турбавацца пра яе няма патрэбы. Так бы мы яшчэ доўга пра яе нічога не ведалі, каб не сустрэла я аднойчы яе блізкага сябру. Аказваецца, ён быў у яе ў Іспаніі і бачыў, як яна жыве. Сказаў, што ходзіць у Мадрыдскі універсітэт і там прадаўжае вучобу на іспанскім аддзяленні, шліфуе сваю мову. Ну што ж, каханне, нічога не зробіш, уздыхнуў ён. Фактычна дык і так нічога канкрэтнага ён нам не сказаў.

У такой няўпэўненасці жылі мы наступных пару гадоў. І вось нарэшце мая сястра запрасіла мяне да сябе ў госці. Я, вядома, вельмі ўцешылася з запрашэння і паехала да яе. І толькі там, на месцы, даведалася я, як меліся яе справы. Паехаўшы ўслед за сваім каханым, які яе зусім не запрашаў у Іспанію, яна спачатку была вельмі самотнай і здадзенай толькі на сябе. Высветлілася, што ў гэтага чалавека была жонка і дарослыя дзеці і ён наогул не меў ніякага намеру пакідаць іх. Нават не ведаў, што яна паехала за ім. Але сястра яго шукала. Вядома, у дыпламатычных колах гэты чалавек быў знаны. Першая іх сустрэча не была занадта прыемнай, былі нават кінуты горкія словы ў яе адрас — што хоча разбіць яго сям'ю, што ён не можа ёй даць больш таго, чым даў, што павінна вярнуцца дахаты і займацца сваімі справамі, што павінна знайсці сабе маладога хлопца і выйсці за яго замуж. Але праз тыдзень пазваніў ёй, і ўжо яны не разлучаліся. І вось мінула шэсць гадоў ад таго часу, і яна запрасіла мяне да сябе, каб пагаварыць і параіцца са мною. Яе каханы павыдаваў дочак замуж і гатоў развесціся для яе з жонкай. Ці варта выходзіць за яго? Матэрыяльны дастатак быў бы гарантаваны: дом зімовы, дом летні, самаходы, яхта. Могуць падарожнічаць па свеце — грошай у яго хапае. Жонка, сарыентаваўшыся, што нехта ў яго ёсць, таксама перастала хавацца са сваімі кавалерамі і развод заўсёды дасць. Але цяпер сястра мая прыйшла да вываду, што ён для яе крыху застары: усё ж чалавеку ўжо 55 гадоў. Нягледзячы на гэта, я параіла сваёй сястры, каб выходзіла за яго замуж. Не ведаю толькі, ці добра я зрабіла.

**Юстына**

Юстына! Ты, бадай, добра параіла сваёй сястры. Часамі жыццё з 55-годкам можа быць намнога больш цікавае, чым жыццё з маладым старцам. Тым больш, што каханне іхняе, відаць, надта моцнае, калі ператрывала столькі гадоў, а паехала яна за ім у нязнанае, паплыла на хвалях лёсу. Ёсць толькі адна справа — ці захоча ён мець дзяцей, маючы ўжо дзяцей дарослых. Ну, але думаю, што твая сястра зможа яго пераканаць, а калі не будуць мець дзяцей, дык і так жа жывуць людзі. Свет быў бы страшэнна нудны, калі б усе хацелі жыць аднолькава.

**СЭРЦАЙКА**

# НАША ПОШТА

**Паважаныя супрацоўнікі рэдакцыі „Нівы"!**

**Звяртаюся да вас з просьбай, каб вы дапамаглі адшукаць сваякоў, якія выехалі ў Польшчу ў час апошняй вайны. Гэта Алена, родная сястра маёй бабулі Рукан Марыі Якаўлеўны, але ў пісьме яна пісалася Гэля. Пражывала яна ў Шчэціне, муж яе працаваў начальнікам пошты, прозвішча Мушынскі. У дзяцей іх ужо дарослыя дзеці, і баба Гэля павінна ўжо мець праўнукаў. Ведаем, што сын іх вайсковец.**

**Таксама ў Польшчы пражывае родны брат бабулі Аляксандр Пакінь-Саха, які пражываў у г. Ныса (Апольскае ваяводства). Можа, знойдзецца чалавек з добрай душой, які дапаможа знайсці маю радню.**

**Мой адрас: 231510 БССР, Гродзенская вобл., г. Шчучын, вул. Лясная, д. 23, кв. 1, Ніна Лявонаўна Рукан.**

* * *

**Дзень добры рэдакцыі „Нівы"!**

Я і мае сябры жадаем пазнаёміцца з дзяўчынамі ды хлопцамі, каб усталяваць прыязныя адносіны. Я сам нарадзіўся ды жыву ў найлепшым месцы ў свеце — у Мінску. Студэнт эканоміі Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі — ужо закончыў тры курсы, а засталося — два. Мне 21 год.

Кола нашае цікавасці - неабмежаванае: ад выключна эканамічных і камерцыйных праблемаў аж да апошніх музычных і падобных момантаў. Захоплівае нас тое, чым „хварэе" навакольны свет, яго „эпідэмія". А так то мы звычайныя хлопцы — разумныя, дужыя, высокія, прыгожыя — але кожная якасць у кожным з нас неабавязковая.

Вось мой і маіх сяброў (таксама студэнтаў) адрасы:

**220092, Мінск-92, вул. Адасўскага, д. 38, кв. 159, Валеры Мікалаевіч Павідайка.**

**220092, Мінск-92, вул. Адасўскага, д. 36/2, кв. 158, Анатоль Пятровіч Лапухоў.**

**220073, Мінск, пр. Пушкіна, д. 36, кв. 27, Дзмітрый Сямёнавіч Кучынскі.**

* * *

**Паважаная рэдакцыя „Нівы"!**

Некалькі дзён таму назад даведаўся я, што ў Польшчы існуе газета на беларускай мове. Гэта адкрыццё выклікала ў мяне вялікі інтарэс да жыцця беларусаў у Польшчы. Скажу, што прыемна было чытаць пра тое, што беларусы за межамі Беларусі захавалі сваю свядомасць.

Маю да вас невялічкую просьбу! Мне 25 гадоў і я хацеў бы (менавіта з вашай дапамогай) перапісвацца з польскім беларусам. Вучыўся я два гады ў інстытуце замежных моў (на французскім факультэце). Захапляюся філасофіяй, люблю чытаць пра астралогію.

Калі хто-небудзь (хлопец ці дзяўчына) захоча напісаць, вось мой адрас: **220038, БССР, г. Мінск, вул. Даўгабродская, дом 6, к. 2, кв. 4, Дзмітрый Рунцо.**

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Кампазітар знаёмых нам песень Зміцер Яўтуховіч з дачкой Валерыяй.* **Фота М. Лукшы.**

ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Авяр'ян Дзеружынскі

## Жабкі навучылі

Плача Коля.
Ёсць прычына —
Хлапчукі завуць
Дзяўчынай.
Оля! Так яго
І клічуць,
А інакш ніяк
Не лічаць.
Толькі выйдзе
Хлопчык з хаты,
А сябры
Ідуць па пятах:
І супыняць,
І смяюцца,
Аж за жываты
Бяруцца.
Ды акружаць:
— Зваць як?
— Оля.
З смеху падаюць,
Бо Коля
„Ка", бач, вымавіць
Не можа,
Хто хлапчыне
Дапаможа?
Колю раз сябры
Спаткалі,
Вельмі моцна
Дапякалі.
І пабег
Самотны Коля
На лужок духмяны
У поле,
Сеў ад крыўды
На траву,
Апусціўшы галаву.
Жабкі з траўкі,
З балаціны
Паглядалі
На хлапчыну:
— Ква-ка-ка,
Ква-ка-ка —
Нам не смешна
З хлапчука,
Ён не Оля,
Ён не Оля —
Ква, ква, Коля.
І шапнуў хлапчук:
— Ква, Коля—
Не пакпяць сябры
Ніколі.



*********************************************************************************************

# НАСЦЕЧКА



З горада ў вёску да бабы і дзеда прыехала ўнучка Насцечка.

— Ну-ну, — казалі тата і мама. — Паглядзіце, у каго яна ўдалася?

І дзед, і баба, спадабаліся Насцечцы. Ды так, што, калі тата і мама пачалі збірацца ехаць назад у горад, Насцечка склала банцікам губкі, заплакала.

— Не хачу ніколі ехаць. Хачу ў дзеда і бабы жыць.

Дзед і баба толькі таго і чакалі.

— Няхай пераначуе ў нас, — узяліся яны ўгаворваць тату і маму. — Калі што якое — заўтра прыедзеце і забераце.

Тата і мама паслухаліся.

Ні на крок не адыходзілі ад унучкі дзед і баба. І накармілі яе, і напаілі, і спаць палажылі.

Прачнулася раніцай Насцечка і доўга не магла зразумець, дзе гэта яна. Калі ж нарэшце зразумела, здагадалася, саскочыла з ложка, патэпала босымі ножкамі туды, дзе была кухня. Адчыніла дзверы — і ўбачыла бабу і дзеда. Баба, нагнуўшыся над дзіўнай пасудзінай, нешта секла, а дзед... Сядзеў на табурэціку і біў малатком па нечым бляшаным — дзінь-дзінь-дзінь!..

— Дзед, што ты робіш? — спытала Насцечка.

— Касу кляпаю, — заўсміхаўся ў свае пышныя пшанічныя вусы дзед.

— Касою я накашу карове сена. Карова з'есць яго і дасць нам малака. А з малака, як ты ведаеш, і смятана, і тварог, і масла.

— А ты, баба, што робіш? — падышла бліжэй да бабы Насцечка.

— Я сяку бульбу, — лагодна адказала баба. — Усыплю сюды муку, развяду цёпленькаю вадою ды свіней накармлю. Вырастуць свінні — і мяса, і сала, і каўбасы будуць.

Пастаяла Насцечка, паглядзела на дзеда і бабу і кажа:

— Дзед сена будзе касіць, баба свіней карміць. А мне што рабіць?

— О! Абы ахвота была, а работы ў нас на ўсіх хопіць.

Кінула баба сячы бульбу, узяла місачку, насыпала ў яе залацістых зярнят.

— Я вось пайду свіней карміць, а ты, — падала яна місачку з зярнятамі Насцечцы, — курэй накорміш. Куры паядуцца зярнят і яечка табе свежае знясуць...

Прыехалі з горада тата і мама, бачаць: стаіць іхняя Насцечка сярод двара, сыпле курам ячмень, а тыя дзяўбуць яго ды ціхенька — ко-ко-ко! — перамаўляюцца, няйначай, радуюцца, што памочніца ў дзеда і бабы з'явілася, хваляць яе.

Глядзелі на Насцечку тата і мама, вачэй не маглі адвесці. Малая, а якая малайчына! Цяпер яны пэўна ведалі: будзе з яе клапатлівая гаспадыня-працаўніца.

**БАРЫС САЧАНКА**

Людміла Рублеўская

# ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК, КОТКІ ПЕПІТЫ І ДЗЯЎЧЫНКІ ВЕРАНІЧКІ

РАЗДЗЕЛ 5. КОНКУРС ПРЫГАЖОСЦІ.

Аднойчы мышка Пік-Пік прачнулася днём. „Відаць, ночай не даела", — занепакоілася Пік-Пік, і, каб супакоіцца, вырашыла пачытаць газету.

Кожны дзень Веранічкін тата крычаў: „Дзе мая газета? Знайдзіце маю газету!" І ўсе шукалі — і не знаходзілі. А гэта мышка Пік-Пік зацягвала татавы газеты да сябе ў норку і рабіла з іх талеркі аднаразовага карыстання.

А ў часы бяссоння можна было гэтыя талеркі пачытаць.

І вось мышка прачытала на сваёй талерцы прыгожую аб'яву: „Сёння ў горадзе вялікая выстава кошак! Пераможца атрымае медаль і каўбасу!"

Але на слове „кошак" — была пляма ад чарнічнага варэння, і ад слова „кошак" застаўся толькі кончык „шак".

І мышка Пік-Пік прачытала аб'яву так: „Вялікая выстава мышак!" А калі пайшла гаворка пра каўбасу, мышка вельмі ўзрадавалася. „Трэба схадзіць за гэтай каўбасой. Я, несумненна, самая тоўстая і прыгожая мышка ў горадзе!"

І мышка Пік-Пік вылецела з норкі з газетай пад пашкай. А каля норкі ўжо тры гадзіны сядзела котка Пепіта і чакала мышку Пік-Пік, каб злавіць яе.

А тут мышка выбегла так шпарка, што Пепіта ледзь паспела яе заўважыць. „Куды гэта пабегла Пік-Пік з няўежнай газетай?" — здзівілася Пепіта і пабегла за мышкай.

Прабегла Пепіта ля дзяўчынкі Веранічкі. „Куды гэта так хутка пабегла Пепіта?" — здзівілася Веранічка і пабегла за коткай Пепітай.
Прабегла дзяўчынка Вераніка ля сваёй мамы.

„Куды гэта бяжыць так хутка мая дачушка?" — здзівілася мама і таксама пабегла за Веранікай.

А за мамай пабег тата. Ён не паспеў нават здзівіцца, як ужо бег за мамай, за Веранічкай, за коткай Пепітай і за мышкай Пік-Пік, і таму здзівіўся на бягу.

А мышка Пік-Пік уляцела ў вялікую залу выставы і... аслупянела. Па ўсёй зале стаялі прыгожыя столікі, на якіх сядзелі прыгожыя каты. Катоў было многа-многа, і ўсе яны трымаліся вельмі важна, а між столікаў хадзіла Камісія, з каўбасой пад пахай.

„Ой-ёй-ёй!" — падумала Пік-Пік, — „відаць, гэтыя каты з'елі ўсіх мышак і падманілі Камісію, самі прыкінуліся мышамі, каб з'есці і каўбасу!"

Але тут на выставу прыбеглі котка Пепіта, дзяўчынка Веранічка, тата і мама. Камісія ўбачыла котку Пепіту і закрычала: „Гэтая котка самая лепшая!"

І котку Пепіту пасадзілі на самы прыгожы столік і далі вялікі медаль і вялікую каўбасу. Дзядзькі-фатографы бегалі вакол Пепіты з фотаапаратамі і фатаграфавалі яе, каб заўтра ва ўсіх газетах быў фотаздымак самай прыгожай коткі.

І тата, і мама, і Веранічка былі вельмі задаволеныя, што ў іх жыве самая прыгожая котка. Усе дзядзі і цёці падыходзілі да іх і пыталіся, як завуць іх котку, колькі ёй гадоў і што яна есць на сняданак.

Адна мышка Пік-Пік адразу была незадаволеная, але падпаўзла да Пепіты і скочыла на яе каўбасу. А калі каўбаса скончылася, мышка Пік-Пік сунула Пепіце пад паху сваю газетную талерку і ўцякла. А котка Пепіта не магла нават паварухнуцца, бо яна пазіравала фатографам.

Вось так усе вярнуліся дадому задаволеныя.

## Вершы Віктара Шведа

### ЦЯПЛЕЙ МО БУДЗЕ Ў КЛАСЕ

Настаўнік вучня запытаў:
— Чаму ты, даражэнькі Пеця,
Тры сонейкі намаляваў,
Калі адно нам толькі свеціць?

Вучань такі вось даў адказ:
— Свядома маляваў я гэта.
Вельмі халодным стаўся клас,
Мо крышку будзе абагрэтым.

### ДВОЙЧЫ ПАКАРАНЫ

— Даражэнькі Яраслаў,
Ты чаму так горка плачаш?
— Тата моцна лупцаваў,
Як пасведчанне ўбачыў.

А калі ўжо сам дайшоў,
Што пасведчанне ёсць таты —
Дык тады мяне ізноў
Ён адлупцаваў заўзята.

### ЯКІ КОЛЕР ВАЛАСОЎ

Вучыць дзедка Аляксей
Колераў малых дзяцей:
— Хто з вас распазнаць гатоў
Колер бацькі валасоў?

На пытанне Яраслаў
Без запінкі адказаў:
— Мой татулька наяву
Мае толькі галаву.

### ЦІ МАЕ ЁН КРЫЛЫ?

Пытае Сярожу
Сястрычка Людміла:
— Скажы мне, ці можа
Мужчына мець крылы?

Калі выйшаў з хаты
Панок гэты з брушкам,
Азваўся наш тата:
— Вось важная птушка!





# ВЕРШЫ ПРА РОДНУЮ МОВУ

## СЕРАФІМА БЕСТАВА

Пяшчотай вее наша мова —
Жыцця духоўнага аснова.
Дзяды, што марылі аб волі,
Яе калісь збіралі ў полі,
Замешвалі на поце, солі
Ды запякалі на вуголлі,
Каб слова кожнае звінела,
Каб нібы срэбра зіхацела,
Каб на высокай ноце пела
І на душы ад слоў святлела.

## АНАТОЛЬ СЕРБАНТОВІЧ

Не пытайся, дзе хвароба носіць,
Можа, я і сам ужо хачу
Быць бліжэй да тых, хто
жне і косіць,
Магілёўскую гаворку чуць.

І не думай, што усё прапала,
А прапала што, дык то — раней...
Родную зямлёю я прапахну,
Налiюся сокам, як ранет.

Болей не кажы, што верш
не любяць.
Я такое слухаць не магу.
Пагляздзі, як бронзавыя трубы
Падымаюць
трубачы
да губ.

Ты і сам трубу вазьмі у рукі
І здаля падзьмі... Ды што б ні пеў —
Чуюцца няўпэўненыя гукі,
Іншыя зусім, што ты хацеў.

Сябра, чуеш чысты звонкі голас?
Ну а чуеш, то не дакарай.
Як труба, ў якую трубіць колас,
У якую трубіць родны край.

## СЯРГЕЙ ПАНІЗНІК

Дазволь, крыніца,
прычасціцца.
Шугай, мой бор,
да самых зор;
ты, бацькаўшчына,
мая граніца;
ты, слова матчына, дазор.
Як абаронца свайго роду,
прадухіляю недарод:
аберагаючы прыроду,
аберагаем і народ.

## ЯЎГЕНІЯ МАЛЬЧЭЎСКАЯ

... Можа, проста пастукала раніца
І застыла ў акне.
Я ў верасень крочу настаўніцай,
Як сустрэнуць мяне?

У сабе мову дзіўную, матчыну,
Як таемнасць, нашу.
Абуджаю Купалавай спадчынай
За душою душу.

****************************************************

## ПАЗНАЁМІМСЯ

Беларусь, 246045, г. Гомель, вул. П. Броўкі, д. 23, кв. 136, **Карцінік Света** (15 гадоў, любіць сучасную музыку, чытаць, збірае каляндарыкі).

*

Беларусь, 230026, г. Гродна, вул. Пестрака, д. 58, кв. 100, **Заяц Лена** (11 гадоў, добра ведае беларускую, вывучае польскую мову; марыць знайсці праўдзівую сяброўку).

*

Беларусь, 247920, Гомельская вобл., Петрыкаўскі раён, г.п. Капаткевічы, д. 28, кв. 1, **Жуковец Оля** (11 гадоў, цікавіцца сучаснай музыкай, хоча пазнаёміцца з дзяўчынкай 11-14 гадоў).

*

СССР, 346414, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Хабырова, д. 72, **Гринева Наташа** (11 гадоў).

*

СССР, 684100, Усть-Большередск, Камчатская обл., ул. Бочнарева, д. 16, кв. 32, **Помкова Наташа** (13 гадоў).

*

Беларусь, 211830, Віцебская вобл., Пастаўскі раён, г.п. Варапаева, вул. Ленінская, д. 9, кв. 27, **Іванова Ірэна** (14 гадоў, любіць музыку, танец, вывучае нямецкую, хоча вывучыць польскую мову).

*

СССР, 665697, Иркутская обл., Н-Илимский р-н, п. Новоилимск, **Конопинская Оксана** (15 гадоў, захапляецца сучаснай музыкай, валейболам).

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

— Што абазначае формула $H_2SO_4$? — пытаецца настаўнік.

— Адну хвілінку, мсье, — задумваецца вучань, — слова круціцца ў мяне на языку.

— Хутчэй сплюнь, — пужаецца настаўнік, — гэта ж серная кіслата!

В.Б.

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



## ХРОНІКА МІЛАСЭРНАСЦІ

Нягледзячы на тое, што прыход святога Юрыя ў Чыкага даволі малады і не заўсёды спраўляецца са сваімі ўнутранымі фінансавымі патрэбамі, вядзе ён шырокую харытатыўна-міласэрную дзейнасць, прыслухоўваецца да патрэб іншых і стараецца дапамагчы патрабуючым.

У першую чаргу дапамагаем праваслаўным прыходам на Беласточчыне. Прыход наш чынна адклікнуўся на пісьмо-просьбу айца пратаерэя Серафіма Жалезняковіча наконт дапамогі ў пабудове Святадухаўскай царквы на Антонюку ў Беластоку. Па ініцыятыве П. Агальца і сёстраў Ніны і Марыі Кулагіных, якія арганізавалі калядоўшчыкаў, было сабрана 930 доляраў у фонд пабудовы. Пазней перададзена яшчэ 400 дол. Айцу Серафіму Жалезняковічу пераслалі мы 275 дол. на ўпарадкаванне купленай зямлі на прыхадскія могілкі. Перадалі мы таксама 500 дол. на пабудову царквы Агія Сафія на Выгодзе ў Беластоку. Нашы сэрцы моцна ўскалыхнула трагедыя на Святой Гары Грабарка. На адбудову спаленай там царквы Праабражэння Гасподняга даслалі мы 600 дол., а пазней 872 дол., сабраныя Зінай Мельнічук.

Як жэст міласэрнасці лічым 200 дол., перасланых матушцы Ірыне Паплаўскай пасля таго, як мы даведаліся пра трагічную смерць а. Паплаўскага — настаяцеля прыхода ў Нарве, які быў закатаваны і павешаны без прычыны каля Заблудава.

Мікалай Нікалаюк і Уладзімір Мельнічук правялі збор грошай на дапамогу будаўнікам Беларускага музея ў Гайнаўцы і сабраныя 657 дол. былі перасланы Грамадскаму камітэту пабудовы музея. У падтрымку Беларускага аб'яднання студэнтаў перадалі мы 535 доляраў, а ў падтрымку беларускага палітычнага руху на Беласточчыне — каля 700 дол. Праз д-ра Антона Міраповіча пераслалі мы 2050 доляраў на дапамогу Беларускаму дэмакратычнаму аб'яднанню ў Польшчы з мэтай арганізаваць летні лагер адпачынку ў Беластоку для дзяцей, пацярпеўшых ад Чарнобыля, а праз прафесара Юрыя Хадыку намеснік старшыні Царкоўнай управы Міхась Каленік перадаў 500 дол. на акцыю дапамогі „Дзецям Чарнобыля", калі ў 1990 г. Чыкага наведала група беларусаў з Мінска — удзельнікаў 19-ай Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі ў Клīўлендзе.

Не забываем мы і пра культуру. Арганізатарам Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы пераслалі мы 200 дол., а праз рэдакцыйную калегію часопіса „Полацак" у Клīўлендзе перадалі мы клубу „Спадчына" ў Мінску 100 дол. на помнік Максіму Багдановічу ў Яраслаўлі, дзе захаваўся яго домік. Збор ахвяраванняў на помнік працягваецца.

Само жыццё з кожным днём рыхтуе для нас, прыхаджан, новыя праблемы і новыя патрэбы, якія не павінны нас палохаць. У дружнай грамадзе не страшны ніякія перашкоды, а перамога цяжкасцяў натхняе да радасці і жыцця.

**МІКАЛАЙ ЛАТУШКІН,**
**сакратар Царкоўнай управы прыхода св. Юрыя ў Чыкага**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Сніцца мне, што знаходжуся ў вёсцы, з якой паходжу. Гляджу, перад вёскай стаіць крыж. Крыж вельмі высокі, вельмі стары, спарахнелы. І зваліўся ён. Стаяць там людзі. Я гавару, нічога дзіўнага, што зваліўся, ён жа зусім спарахнелы. Я яго падымаю, абапіраю аб клуню, і думаю: не, гэта задалёка. Бяру яго і абапіраю аб бліжэйшую клуню.

**Надзя**

Я ў кватэры нейкай знаёмай жанчыны. Яна хворая, сядзіць у кутку. А насупраць пакоя стаіць жанчына, якая працавала са мной на адным прадпрыемстве. Яна моцна хварэе на ногі, амаль не ходзіць. І ў сне я здзівілася, калі ўбачыла, што яна памаленьку ідзе. Я падыйшла, абняла яе рукой, каб памагчы ёй ісці.

Майму мужу снілася, што бачыў ён многа гадзіннікаў. Хацеў сабе купіць гадзіннік, але не купіў.

**Марыя**

Надзя! Крыжы, на жаль, сняцца на смутак і нейкія перажыванні. А твой жа крыж быў стары і спарахнелы, дык мо і сум будзе задаўнены.

А твой, Марыя, сон зусім іншага характару. Цябе можа сустрэць неспадзяваная радасць. Ты ж памагала хворай жанчыне.

Што датычыцца сну тваёго мужа, дык і ён, здаецца, някепскі. Калі сняцца добрыя, новыя гадзіннікі, можа гэта абазначаць поспехі ў справах, лепшае здароўе. Іншае прадвяшчалі б старыя, сапсаваныя гадзіннікі — нейкую няўдачу, разбітае жыццё.

**АСТРОН**

## ЛЬГОТЫ ДЛЯ ІНВЕСТЫТАРАЎ

Карысныя ўмовы стварае новы закон аб замежных інвестыцыях, прыняты Вярхоўным Саветам Беларусі. Гарантуе ён недатыкальнасць інвестыцый і падатковыя льготы.

Згодна з прынятым законам прадпрыемствы з замежным капіталам вызваляюцца на два гады ад падаткаў, а праз наступныя два гады плацяць 50 працэнтаў абавязваючай стаўкі. Закон дазваляе замежным інвестытарам на свабодны трансферт валюты, якая знаходзіцца ў іх распараджэнні. Раней дазволена ім адкрываць рублёвыя рахункі ў камерцыйным банку „Беларусь".

Яшчэ большыя льготы для замежнага капіталу прадбачваюцца ў зонах свабоднага прадпрымальніцтва, статут якіх зараз апрацоўваецца. Адна зона будзе створана ў Брэсце, другая — каля Мінска. Ужо вядома, што ў зонах будуць прымяняцца льготныя мытныя тарыфы і не будзе спаганяцца экспартна-імпартны падатак. Прадпрыемствы з прыярытэтных галін прамысловасці будуць вызвалены ад пошліны.

(„Kurier Podlaski", 11.09.1991 г.)




### ГРЫБНЫЯ КАТЛЕТЫ

На 80 дэкаў грыбоў трэба ўзяць 15 дэкаў цыбулі, 15 дэкаў тлушчу, паўшклянкі цёртай булкі, 2 яйкі, чэрствую булачку, паўшклянкі малака, 3 лыжкі цёртай булкі для мачання катлетаў, соль, перац.

Грыбы ачысціць, памыць, нашаткаваць. Стушыць з цыбулькай. Чэрствую булку намачыць у малацэ, выціснуць яе, расцерці, спалучыць са стушанымі грыбамі, дадаць яйкі, паўшклянкі сцёртай на тарцы сухой булкі. Атрыманую масу заправіць па смаку соллю і перцам, падзяліць яе на порцыі і рабіць з іх круглыя катлеты, мачаючы ў цёртую булку. Падрыхтаваныя катлеты адразу смажыць на патэльні з разагрэтым тлушчам.

Падаюць грыбныя катлеты з памідорным ці смятанным соусам і салатамі.

### ПІРОГ З ГРЫБАМІ

На 30 дэкаў мукі трэба ўзяць 5 дэкаў дражджэй, 1 лыжку цукру, 2 яйкі, 8 лыжак алею, соль, перац, ваду, 80 дэкаў баравікоў ці маслякоў, паўлыжкі масла, 2 цыбуліны, 3 лыжкі густой смятаны, паўшклянкі сцёртага на тарцы жоўтага сыру.

Грыбы перабраць, ачысціць, добра памыць (з капелюшоў масляжоў зняць скурку), дробна нашаткаваць. Нарэзаную костачкай цыбулю падсмажыць на 2 лыжках алею і 1/2 лыжкі масла. У падсмажаную цыбулю дадаць грыбы, пасаліць і тушыць на невялікім агні пад накрыўкай. Тушыць каля 1 гадзіны. У канцы дадаць смятану і тушыць яшчэ хвіліну, зняць грыбы з агню і астудзіць.

Прасеяць муку, дрожджы расцерці з цукрам, дадаць некалькі лыжак летняй вады, уліць у прасеяную муку, дадаць алей (4 лыжкі), яйкі і перамяшаць, дадаючы крыху вады, пасаліць, дадаць змеленага перцу і вымясіць цеста драўлянай лыжкай.

Брытфану ці вогнетрывалы круглы посуд змазаць 2 лыжкамі алею, вылажыць палавіну цеста і размеркаваць яго так, каб пакрыла цэлае дно і зайшло крыху на бакі. На цеста палажыць грыбы, пасыпаць цёртым жоўтым сырам і накрыць раскатаным блінам з рэшты цеста. Спячы ў гарачай духоўцы. Пірог пячэцца каля паўгадзіны.

Найлепш падаваць яго гарачым як другую страву на абед або да булёну ці баршчу ў якасці дадатку. Калі падаем пірог у якасці другой стравы, неабходна дадаць да яго нейкую салату.

**ГАСПАДЫНЯ**

### ЧЫТАЙЦЕ „НАШУ НІВУ" І „СВАБОДУ"!

Усім, хто жадае чытаць незалежныя беларускія месячнікі „Наша Ніва" і „Свабода" паведамляем, што рэдакцыя „Часопіса" наладзіла супрацоўніцтва з гэтымі газетамі. Праз рэдакцыю „Часопіса" вы зможаце рэгулярна атрымоўваць як „Нашу Ніву", так і „Свабоду". Цана аднаго паасобніка газеты з коштам перасылкі дахаты:

„Наша Ніва" — 1000 зл.
„Свабода" — 500 зл.

Калі ўплаціце адвольную суму грошай, атрымаеце адпаведную колькасць нумароў:

для прыкладу: 10000 зл. — 10 нумароў „Нашай Нівы"
5000 зл. — 10 нумароў „Свабоды"

Грошы трэба ўплачваць на рахунак „Часопіса":
„Czasopis", назва газеты, якую хочаце атрымліваць,
5526-80725-136 II PKO Bialystok.

**(вп)**

### НАВІНЫ З СЕМЯНОЎКІ

Злачынства дайшло і да царквы ў Семяноўцы. Ноччу з 12 на 13 жніўня варвары ўламаліся ў царкву. Яны ўвайшлі праз дзверы, адбіўшы жалезную штабу. Укралі адзінаццаць старынных іконаў.

Святчэннік гаварыў на апошнім багаслужэнні, што забараняецца фільмаваць царкву, калі будуць адбывацца царкоўныя ўрачыстасці.

* * *

У Семяноўцы існуе практычна адзін пункт скупкі лісічак і іншых грыбоў.

У прыватнай краме грыбоў не бяруць. Уласнік ужо не зацікаўлены гэтай справай. „Раён лес" дае ніжэйшую цану, чым „прыватнік", які забірае лісічкі ад М. Шыманюк. Вядома, людзі нясуць грыбы, дзе даражэй і тады „Раён лес" перастае прымаць лісічкі, не можа павялічыць цаны.

* * *

У Семяноўку даволі часта прыязджаюць гандляры, якія танна прадаюць вопратку. Людзі купляюць ахвотна.

**Аўрора**

САКРАТ ЯНОВІЧ

дзякуе асобам
і ўстановам,
якія віншавалі яго
з пяцідзесятай пятай
гадавінай нарадзінаў.

Сардэчна дзякую рэдакцыі і ўсім, хто віншаваў мяне з нагоды юбілею. Вам, сябры, таксама жадаю моцнага здароўя на доўгія гады радаснага жыцця!

**ВАСІЛЬ ПЕТРУЧУК**

## КАЛЕЙДАСКОП ЖАРТАЎ

**Кухар не вінаваты**

Генерал Вестан, жадаючы паказаць, што ён клапоціцца пра дабрабыт жаўнераў, зрабіў неспадзяваны візіт у сталоўку. Калі насустрач яму паказаліся двое чарговых з вялікім казанам, ён іх спыніў:

— Дайце-ка мне пакаштаваць, — загадаў генерал.

— Але, сэр...

— Ніякіх але! Дайце лыжку!

Адсёрбаўшы, генерал сплюнуў:

— І вы называеце гэта юшкаю?!

— Не, сэр, — адказаў чарговы па кухні. — Я ж намагаўся вам растлумачыць, што мы выносім памыі.

**Слушная парада**

Размаўляюць двое студэнтаў.

— Часцяком бачу сябе ў сне прафесарам. Што ты мне параіш, каб гэты сон стаў яваю?

— Менш спаць.

**Перад іспытам**

Прафесар чытае апошнюю лекцыю ў семестры. Асабліва націскае на тое, што ўсе студэнты павінны як мага лепш падрыхтавацца ў апошнія дні да іспытаў.

— Экзаменацыйныя квіткі ўжо ў машыністкі. Хто мае якія да мяне пытанні?

Усталявалася мёртвая цішыня. Знянацку раздаўся голас з задняга раду:

— Як прозвішча машыністкі?

**Лакальная хвароба**

Студэнт: Прафесар, сёння я не змагу наведаць вашу лекцыю.

Прафесар: Чаму так?

Студэнт: Бо вельмі кепска сябе адчуваю.

Прафесар: У якім месцы вы адчуваеце сябе кепска?

Студэнт: На вашай лекцыі...

*З англійскай мовы пераклаў*

*Пятрусь Капчык.*




## ЛІЧБА

— Дзіўна, — сказаў Балагур касірцы, атрымліваючы заработную плату. — У гэтым месяцы я тыдзень не выходзіў на работу. Прагуляў. А грошай выдалі на дваццаць рублёў больш, чым у маі.

— З чэрвеня мы на дзяржразлік перайшлі, — растлумачыла касірка. — Грошай стала больш. І вось вынік. Радавацца трэба. Справы ўгару пайшлі.

Праз месяц Балагур яшчэ больш здзівіўся.

— Я ў ліпені два тыдні не працаваў. У суседзяў падзарабляў. Халтурыў. А грошай далі на сорак рублёў больш, чым у чэрвені.

— Эканамічныя рычагі. Самафінансаванне. Рэгіянальная самастойнасць, — загадкава прагаварыла касір. — На месцы не стаім. Перабудоўваемся.

Балагур нічога не зразумеў. Пайшоў прэч.

У жніўні ён атрымаў на пяцьдзесят рублёў больш, чым у ліпені.

— За што ж столькі адвалілі?! — аж пачаў падскакваць ён ад радасці. Цэлы месяц мяне не было. У кааператыве падзарабляў. З раніцы і да ночы.

— Ну, калі вас месяц не было, — усміхнулася касір, — то вы яшчэ не ведаеце, што мы цяпер — змешанае прадпрыемства. У нас заработная плата ў тры разы вырасла...

**ЯЎГЕН КАСЦЮК**

*Пераклад з украінскай Валерыя Бабея*

## ПЕРШЫ МОЙ КУМІР

*Прысвячаецца*
*М. Забэйдзе-Суміцкаму*

Музыка Д. Яўтуховіча
Верш Л. Пранчака

На чужыне дні праходзяць у журбе.
Беларусь — ён марыў толькі
пра цябе.
Песняю ажыў світальнай.
Горда пранёс праз ростань
Свой божы дар
Вялікі беларус-пясняр.

**Прыпеў:**
Спявак славуты, добры геній,
Першы мой кумір,
Чытаю моўчкі ў задуменні
Твой стары клавір...
Беларускі салавей,
Песню матчыну сагрэў
Твой журботны спеў...

Лёс яго няўмольным і суровым быў.
То высока ўзносіў, то балюча біў...
Голас песні старадаўняй —
Мяккі, пяшчотны, чысты,
Ты нам збярог
На сівеы чужых дарог.

**Прыпеў.**



# ВІРАВАНКА

## (ПЯЦІЛІТАРНАЯ)




Першую літару слова трэба ўпісаць у клетачку з лікам, астатнія — вакол гэтай клетачкі згодна з рухам гадзіннікавых стрэлак. Як акрэсленні падаюцца тры словы, якія асацыіруюцца з адгадваемым словам.

1) шлях, вада, катлаван; 2) жывёла, смерць, лаянка; 3) пекла, хвоя, толь; 4) аскет, рэлігія, адзіноцтва, 5) плячо, зорачка, ранг; 6) калькасць, будучае, патрэба; 7) канверт, жыхар, дом; 8) дзяржава, зброя, мужчыны; 9) вецер, хуткасць, пыл; 10) рогі, тупасць, воўна; 11) сала, самец, карыта; 12) вада, лаза, плач; 13) паветра, вада, расліны; 14) спосаб, гасціна, адносіны; 15) улада, жорсткасць, Сталін; 16) рыба, нітка, сумка; 17) віхар, верх, слуп; 18) дождж, вопратка, чалавек; 19) хата, горад, поле; 20) кветкі, птушкі, пара.

**„ядань"**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з н-ра 32: сенакос, зарадка, парадак, загадка, тарнада, церамок, анекдот, малаток, балаган, прынада, карагод, багацце, Гагарын, дырыжор, стралок, зенітка, шаленец, канавал, квартэт.**

### ПОШТА ВІРАВАНКІ

**Аляксандр Дабчынскі, Беласток:** У „Ніве" н-р 34 няправільна пададзены быў адказ на віраванку, змешчаную ў н-ры 28. Одра — гэта польская назва, а па-беларуску павінна яна гучаць Одэр. Калі слова Одэр упісаць у дыяграму, то не дапасуецца яно да суседніх слоў і таму павінна быць Обра, так як у маім рашэнні. Обра гэта рака даўжынёю ў 253 км, якая плыве на награніччы Любускай зямлі і Велькапольшчы, а гэта ж захад Польшчы.

**Ад рэдакцыі**: Одэр — гэта нямецкая назва ракі Одра, якая праз рускую мову трапіла і ў некаторыя беларускія слоўнікі. „Беларуская савецкая энцыклапедыя", т. 7, стар. 564, падае назву Одра з наясненнем, што ў нямецкай мове назва гэтай ракі гучыць Одэр. Тая ж энцыклапедыя ў артыкуле „Польшча", як і ў далучаных да яго картах (т. 8, стар. 502-512) карыстаецца назвай Одра. Назва Одра ўжываецца не толькі ў геаграфічнай тэрміналогіі, але і ў мастацкай літаратуры. Выдадзены ў Мінску ў 1969 годзе зборнік апавяданняў польскіх пісьменнікаў мае загаловак „Ад Буга да Одры". Аўтар віраванкі меў на думцы Одру, а не Обру.

******************************************************************************

**Ніва**

„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.*Рэдагуе калектыў: Мікола Ваўранюк, Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк,Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa
1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na IV kwartał 1991 r. upływa 20 sierpnia 1991 r.
2.Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 13.000 zł + 6.500 zł za doręczenie.
3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 2.500 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej:
- październik - 10.000 zł.
- listopad - 10. 000 zł.

Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 26.000 zł. Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.